# Таварыш, сьпяшайся падпісацца на ўсе выданьні выдавецтва „Калгасьнік Беларусі“!

## „Калгасьнік Беларусі“

Усебеларускую калгасна-сялянскую газэту

**Умовы падпіскі:**

На 3 мес. . . . . 60 кап.
„ 6 . . . . 1 р. 20 „
„ 1 „ . . . 2 „ 40 „

## „Шляхі Калектывізацыі“

орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР

**Умовы падпіскі:**

На 1 год — 24 нумары 3 р.
„ 6 м-цаў — 12 „ 1 р. 50 кап.
„ 3 „ — 6 „ — 75 „
„ 1 „ — 2 „ — 25 „

## „Паляўнічы Беларусі“

орган Прамыслова-Каапэрацыйнага Саюзу Паляўнічых „Белкахотсаюзу“

**Умовы падпіскі:**

На 1 год — 12 нумароў — 2 р. 40 к.
„ 6 м-цаў — 6 „ — 1 „ 20 „
„ 3 м-цы — 3 „ — 60 „

На меншы тэрмін падпіска ня прымаецца.

Штомесячн. літ.-мастацкую і грамадзка-палітычную часопіс

## „Беларусь Калгасная“

орган аб'яднаньня Пралетарска-калгасных пісьменьнікаў БССР

У часопісі друкуюцца апавяданьні, аповесьці, вершы, нарысы, бібліяграфічны аддзел, крытычныя артыкулы, а таксама артыкулы на грамадзка-палітычныя тэмы.
У часопісі прымаюць удзел усе пісьменьнікі БССР і ўдарнікі, закліканыя ў літаратуру.

**Умовы падпіскі:**

На 1 год — 12 нумароў — 3 р. 60 к.
„ 6 м-цаў — 6 „ — 1 „ 80 „
„ 3 м-цы — 3 „ — 90 „
„ 1 м-ц — 1 „ — 30 „

**У кожнай хаце-чытальні, у кожным саўгасе і кожнай МТС, у кожнай школе павінны быць выданьні выдавецтва „Калгасьнік Беларусі“.**

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙ ВЫКЛЮЧНА ПОШЦЕ АБО ЛІСТАНОСЦУ.
АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ 68. ВЫДАВЕЦТВА „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“.

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ.


## ЗЬМЕСТ




№ 1

СТУДЗЕНЬ

1932 г.




# ПАД СЬЦЯГАМ ЛЕНІНА — УПЕРАД, ДА НОВЫХ ПЕРАМОГ

Восьмая гадавіна з дня сьмерці вялікага правадыра супадае з пасьпяховым сканчэньнем трэцяга рашаючага году пяцігодкі, на працягу якога мы скончылі пабудову фундаманту сацыялістычнае экономікі, супадае з пачаткам чацьвертага заключнага году пяцігодкі, на працягу якога мы будзем з дня на дзень будаваць сацыялізм, які зьяўляецца першай ступеньню новай камуністычнай грамады.

Буйнейшыя, рашаючыя посьпехі ў сацыялістычным будаўніцтве, з якімі мы прыходзім да восьмай гадавіны сьмерці Леніна, дасягнуты перш за ўсё дзякуючы таму, што наша партыя і яе Цэнтральны Камітэт на чале з тав. Сталіным — лепшым пасьлядоўным вучнем Уладзімера Ільліча— здолелі трымаць высока вялікі сьцяг Леніна.

Ленінская палітыка нашай партыі, яе непрымірымая барацьба з усімі відамі апартунізму, гераічная поўная захапленьня і энтузіязму барацьба рабочае клясы і працоўнага сялянства за бальшавіцкія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва забясьпечылі і надалей будуць забясьпечваць цьвёрдае няўхільнае ператварэньне ў жыцьцё сусьветна гістарычных заветаў нашага вялікага правадыра.

Пад якімі асноўнымі лёзунгамі ішла наша работа і павінны прайсьці Ленінскія дні ў гэтым годзе?

**За выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, за пасьпяховую пабудову сацыялістычнай грамады,**—такі першы асноўны лёзунг Ленінскіх дзён у гэтым годзе.

Ленін завяшчаў нам скарыстаць „мірную перадышку", што пачалася пасьля грамадзянскай вайны, для замацаваньня і пашырэньня пазыцый, заваёваных намі ў Кастрычніцкія дні, для вызваленьня нашай краіны ад іншакраёвай залежнасьці ў тэхніка-эканамічных адносінах. Ленін указваў, што „адзінай матар'яльнай асновай сацыялізму можа быць буйная машынная прамысловасьць, здольная рэарганізаваць і земляробства".

Ленін вучыў партыю, што „толькі тады, калі краіна будзе электрыфікавана, калі пад прамысловасьць, сельскую гаспадарку, транспарт будзе падведзена тэхнічная база сучаснай буйнай прамысловасьці, толькі тады мы пераможам канчаткова".

Гэты стратэгічны плян, гэтыя ўказаньні Ўладзімера Ільліча, рабочая кляса нашай краіны, пад кіраўніцтвам партыі і яе ЦК, выконвае з усёй рашучасьцю і пасьлядоўнасьцю. Савецкі Саюз знаходзіцца на крутым пад'ёме.

Досыць указаць, што за першыя тры гады пяцігодкі прырост прадукцыі прамысловасьці кожны год раўняўся 21—24 проц. Прычым цяжкая індустрыя—гэта асноўная база сацыялізму — разьвівалася яшчэ больш хуткімі тэмпамі, чым уся прамысловасьць: штогадовы прырост цяжкой індустрыі раўняецца—24—40 проц.

У наступіўшым 1932 годзе мы павінны зрабіць вялізарнейшы і значна большы ў параўнаньні з папярэднім годам скачок наперад па шляху разьвіцьця ўсяе нашае народнае гаспадаркі, па далейшаму ўмацаваньню абароназдольнасьці краіны. Прырост валавой прадукцыі дзяржаўнай прамысловасьці для гэтага году вызначан у 36 проц., што дае **перавышэньне даваеннага ўзроўню прамысловасьці амаль ў чатыры разы.**

У цэнтры нашай увагі, як і раней, стаіць задача разьвіцьця буйнай машыннай індустрыі і электрыфікацыі. Досыць указаць, што ў гэтым, апошнім годзе пяцігодкі ўдзельная вага прадукцыі цяжкай прамысловасьці ў народным прыбытку ўзьнімаецца да 19 проц. супроць 16,9 проц. у мінулым годзе. У строй уступяць такія вялізарнейшыя сусьветныя гіганты, як Магнітстрой, Кузьнецкастрой і інш. Праграма выплаўкі мэталю і здабычы вуглю падвойваецца: трэба пусьціць 24 новых доменных печак, трэба даць краіне 9 млн. тон чыгуну па контрольных лічбах і 10 млн. тон па сустрэчнаму пляну супроць 5 млн. тон выплаўленых у 1931 годзе, трэба здабыць 90 млн. тон вуглю супроць 56 млн. тон, здабытых у 1931 годзе.

У 1932 годзе яшчэ больш паскорыцца працэс пад'ёму адсталых нацыянальных раёнаў і стварэньня ў іх прамысловых ачагоў.

У гэтым годзе мы павінны абавязкова вырашыць задачу пад'ёму і карэннага палепшаньня ж.-д. транспарту, які, як і раней, застаецца адным з „вузкіх месц“ у нашай народнай гаспадарцы.

Ленін у сваім каапэрацыйным пляне падкрэсьліваў, што „пры ўмове поўнага каапэраваньня мы-б стаялі ўжо абедзьвюма нагамі на сацыялістычнай глебе“. Два гады прайшло з таго часу, як ЦК нашай партыі па ініцыятыве тав. Сталіна высунуў лёзунг суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на яе аснове кулацтва як клясы. За гэты час дзякуючы бурным тэмпам разьвіцьця прамысловасьці, дасягнуты рашучыя перамогі сацыялістычных форм сельскай гаспадаркі над формамі прыватна-уласьніцкімі. Разгромленымі апынуліся капіталістычныя элемэнты вёскі. Калгаснае сялянства зрабілася цэнтральнай фігурай земляробства.

Такім чынам мы ўжо дабіліся абсалютнай перавагі сацыялістычных элемэнтаў над індывідуальным сэктарам вёскі, канчаткова і беспаваротна вырашылі ў нашу карысьць пытаньне „хто каго“ ня толькі ў горадзе, але і ў сельскай гаспадарцы. Тым самым яшчэ раз падмацоўваецца правільнасьць палажэньня Леніна аб магчымасьці пабудовы сацыялізму ў нашай краіне.

Наступіўшы апошні год пяцігодкі будзе годам новых буйных посьпехаў у справе сацыялістычнай перабудовы вёскі. Цэнтральнай задачай зараз зьяўляецца якаснае ўмацаваньне калгаснай вытворчасьці. Ленінскія дні гэтага году павінны прайсьці пад знакам усямернага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, пасьпяховага сканчэньня важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній на вёсцы, перш за ўсё хлебазагатовак, ільна і бавоўназагатовак. Шырокая масавая падрыхтоўка павінна быць разгорнута да трэцяй бальшавіцкай вясны, прычым гэта падрыхтоўка павінна забясьпечыць усямернае падвышэньне ураджайнасьці і стварэньня сталай кармавой базы жывёлагадоўлі.

Разам з бальшавіцкай барацьбой за кожную тону мэталю, сталі, вуглю і нафты, за кожную машыну, кожны паравоз і вагон, за бесьперапынную выразную работу кожнага ж.-д. вучастка, органаў забесьпячэньня і каапэрацыі, за моцны калгас мы павінны **поўнасьцю забясьпечыць выкананьне якасных паказчыкаў прамфінпляну 1932 году.**

Бясспрэчна, што задачы, якія стаяць перад намі мы зможам вырашыць толькі пры ўмове **бальшавіцкага ажыцьцяўленьня 6-ці ўмоў т. Сталіна, якія зьяўляюцца ключом для новых сусьветна-гістарычных перамог на фронце будаўніцтва сацыялізму.** Неабходна ў самы кароткі тэрмін пакончыць з абязьлічкай ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, зьнішчыць ураўнілаўку ў заработнай плаце, на справе правесьці хозразьлік і дабіцца сапраўднага канкрэтнага кіраўніцтва на кожным гаспадарчым вучастку.

Апублікаваная 5-I 32 г. пастанова ЦК аб арганізацыі новых наркаматаў прамысловасьці,—новы буйны крок уперад па шляху разьвіцьця цяжкой, а таксама і лёгкай і лясной прамысловасьці, новы буйны крок наперад па шляху забесьпячэньня канкрэтнага апарацыйнага кіраўніцтва народнай гаспадаркай зьверху да нізу, пастаноўкі правільнай арганізацыі працы, якая павялічвае яе прадукцыйнасьць. А „прадукцыйнасьць працы—гэта ў апошнім ліку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу“ (Ленін). Вялікую ролю ў вырашэньні гэтай задачы павінна адыграць камуністычнае дачыненьне да працы.

**За камуністычнае дачыненьне да працы**—такі другі, асноўны лёзунг Ленінскіх дней у гэтым годзе. „Камунізм пачынаецца там,—пісаў Ленін,—дзе зьяўляецца самаахвярная, перамагаючая цяжкую працу забота **радавых рабочых** аб павялічэньні прадукцыйнасьці працы, аб захаваньні **кожнага пуда хлеба, вуглю, жалеза і інш. прадуктаў.**

Сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, рост гаспадарчых разьліковых брыгад і плянава-апарацыйных груп, высоўваньне сустрэчных плянаў, рост рацыяналізатарскага руху і паход за аўладаньне тэхнікай, якія разьвярнуліся ў нас у вялікіх разьмерах—усе гэтыя формы адбіваюць сапраўднае камуністычнае дачыненьне да працы.

Верная заветам вялікага правадыра, ВКП(б) адзіна маналітна і згуртавана навакол свайго Ленінскага ЦК. За апошнія гады наша партыя вырасла ў непераможную сілу, у вялікую арганізацыю, якая налічвае ў сваіх радох звыш 2 з паловай млн. чалавек, з якіх каля 40 проц.—кандыдаты. Зараз перад партыяй ва ўвесь рост паўстала задача асваеньня і замацаваньня новых сваіх папаўненьняў, марксіцка-ленінскага выхаваньня партыйных мас, у тым ліку асабліва—кандыдатаў.

Вядома, якое **выключнае значэньне надаваў Ленін ідэйна-тэарэтычнаму выхаваньню партыйных мас.** Ен ня раз указваў, што без рэвалюцыйнай тэорыі ня можа быць і рэвалюцыйнай практыкі. Тав. Сталін, разьвіваючы гэтую думку Уладзімера Ільліча, падкрэсьліваў, што тэорыя, калі яна складаецца ў неразрыўнай сувязі з рэвалюцыйнай практыкай, „можа даць руху упэўненасьць, сілу арыентыроўкі і разуменьне ўнутраной сувязі вакольных здарэньняў, бо яна, і толькі яна, можа дапамагчы практыцы зразумець ня толькі тое, як і куды рухаюцца клясы ў сучасным, але і тое, як і куды павінны рухацца яны ў бліжэйшым будучым“.

**За марксіцка-ленінскае выхаваньне партыйных мас**—вось трэці, асноўны лёзунг Ленінскіх дней у гэтым годзе, узбраяючы партыйныя масы тэорыяй марксізма-ленінізма, мы зможам яшчэ хутчэй рухацца наперад, да новых перамог на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва, яшчэ больш пасьпяхова перамагаць супраціўленьне апартуністычных элемэнтаў, што зьяўляецца агентамі разьбітага, але канчаткова яшчэ не дабітага клясавага ворага.

Разьвіваючы і паляпшаючы марксіцка-ленінскае выхаваньне партыйных мас, мабілізуючы іх на барацьбу з тэорыяй і практыкай правага і „левага“ апартунізму, з контррэвалюцыйным трацкізмам і гнілым лібэралізмам, мы павінны выключную ўвагу ўдзяляць рабоце камсамолу.

**За падвышэньне якасьці работы камсамолу і партыйнага кіраўніцтва ім**—такі чацьверты асноўны лёзунг Ленінскіх дней у гэтым годзе. Вядома, якую вялікую ўвагу надаваў Уладзімер Ільліч рабоце сярод моладзі. На трэцім усерасійскім зьезьдзе РКСМ 4-га кастрычніка 1920 г. Ленін казаў: „У вядомым сэнсе можна сказаць, што менавіта моладзі належыць сапраўдная задача стварэньня камуністычнай грамады“. Наш камсамол вырас у арганізацыю, якая налічвае ў сваіх радох 5 з паловай мільёнаў

чалавек, пры чым з іх 3 млн. чалавек прынята ў мінулым годзе. Адгэтуль зразумела, якія складаныя задачы стаяць перад камсамолам у справе асваеньня, замацаваньня і марксіцка-ленінскага выхаваньня новых сваіх папаўненьняў, не гаворачы ўжо аб вялікай ролі камсамолу ў сацыялістычным будаўніцтве.

Мы вырашылі задачу вялікай важнасьці, сусьветнага-гістарычнага значэньня. Посьпехі нашай партыі—посьпехі ленінскага Камуністычнага інтэрнацыяналу. Нашы перамогі на фронце будаўніцтва сацыялізму—перамогі сусьветнага камуністычнага рэвалюцыйнага руху, што ўсё больш і больш разьвіваецца. Гэтыя перамогі паскараюць набліжэньне пралетарскай рэвалюцыі ва ўсім сьвеце.

**Барацьба за сусьветны Кастрычнік**—такі пяты асноўны наш лёзунг.

Пад знакам мабілізацыі мас на ажыцьцяўленьне асноўных задач сацыялістычнага будаўніцтва і міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі павінны прайсьці раённыя, гарадзкія і абласныя партыйныя канфэрэнцыі, якія зараз адчыняюцца, павінна прайсьці падрыхтоўка да 17 Усесаюзнай канфэрэнцыі ВКП(б).

Вялікія задачы стаяць перад намі. Нямала цяжкасьцяй на шляху іх ажыцьцяўленьня, але мы гэтыя цяжкасьці пераможам, задачы вырашым. Парукай гэтаму зьяўляецца тое, што мы будзем і надалей трымаць вялікі сьцяг Леніна высока, захоўваючы яго чыстату і незаплямленасьць.

(З перадавога артыкулу „Праўды“ ад 7-I 32 г.).

# Рост паляўнічай каапэрацыі

Гэтым артыкулам мы падвядзем ітог росту складу паляўнічых, росту паляўнічай каапэрацыі Беларусі. У парадку крытыкі і самакрытыкі трэба сказаць, што мы толькі ўпяршыню за час існаваньня паляўнічай каапэрацыі можам даць дакладныя зьвесткі росту паляўнічай каапэрацыі па сацыяльнаму становішчу, па партыйнаму і прафсаюзнаму становішчы, склад паляўнічых па ўзросту, па наяўнасьці ўзброеных сябраў саюзу паляўнічых, а таксама склад праўленьня (кіраўніцтва паляўнічай каапэрацыі) па сацыяльнаму становішчу і партыйнасьці, склад старшынь праўленьняў па сацстановішчу і па партыйнасьці, склад служачых праўленьняў, стала працуючых, па саўмяшчэньню, па сацыяльнаму становішчу, па партыйнасьці, склад паляўнічых ячэек фабрычна-заводзкіх, гарадзкіх, вайсковых, у саўгасах, калгасах, сельсаветах і іх сацыяльны і партыйны склад.

Як і ў іншых галінах нашага сацыялістычнага будаўніцтва ў паляўнічай каапэрацыі, апартуністы ўсіх колераў гаварылі, што ўзятыя тэмпы паляўнічай каапэрацыі па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі ажыцьцявіць нельга, бо ня хопіць ні сродкаў, ні людзей, ні магчымасьцяй. Прыведзеныя ніжэй табліцы складу паляўнічай каапэрацыі яскрава сьведчаць аб тым, што з такім сацыяльным складам мы можам будаваць паляўнічую гаспадарку і разьвіваць паляўнічую каапэрацыю, што цэнтральнае праўленьне Белкахотсаюза, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ўзяла верную лінію ў сваёй рабоце, ачысьціла рады паляўнічай каапэрацыі ад абшарнікаў жандараў, кулакоў, і праводзіць далейшую ачыстку ад чужога элементу і пачала разьвіваць паляўнічую каапэрацыю і будаваць паляўнічую гаспадарку, у чым і дасягнула ўжо вялікіх посьпехаў.

Якія-ж гэтыя табліцы, што за лічбы ў гэтых табліцах?

Табл. 1

| Усяго лічыцца сябраў саюзу паляўнічых | З іх рабочых | Служачых | Вайсковых | Міліцыі | Лясн. варты | Інв.-пэнсіянэр | Калгасн. | Сялян | | | Каап. за кошт фонд. і ільгот. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | Сялян. бед. асл. ад пад. | Сялян плат. пад. да 20 р. | Ад 20 да 30 | Ад 30 і звыш | Беднаты і батр. | Малад. | Жанч. |
| 36763 | 4216 | 4974 | 821 | 476 | 509 | 387 | 6573 | 6117 | 7135 | 3751 | 2105 | 614 | 917 | 39 |

Табл. 2

| Усяго сяброў саюзу паляўнічых | Па партыйнасьці | | | | Па прафэсіі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сябр. КП(б) | Кандыд. КП(б) | Камсам. | Беспарт. | Сябр саюзу | Саматужнік | Слаб. праф. | Не сябр саюзу |
| 36763 | 1632 | 435 | 973 | 34158 | 10116 | 209 | 18 | 26687 |

Табл. 3

| Усяго сябраў саюзу паляўнічых | Ад 18 да 22 год | Ад 22 да 40 год | Ад 40 да 50 год | Ад 50 і звыш |
|---|---|---|---|---|
| 36763 | 4918 | 17569 | 10597 | 3679 |

Табл. 4

| Усяго маецца стрэльб | Маюць стрэльб па колькасьць | | | | Стрэльб. ц-боя | | | | Шомпальных | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Па 1 стр. | Па 2 стр. | Па 3 стр. | Зусім ня мае стр. | 1 ств. 3-х патр. | 2-х ств. ц-б | 2-х ств. ц-б | 3-х ств. ц-б | 1 ств. | 2-х ств. |
| 33900 | 31813 | 1908 | 179 | 2863 | 2627 | 2813 | 8714 | 42 | 7309 | 12315 |

Табл. 5

| Агульная колькасьць | | | | Па сацыяльнаму станов. | | | | Па партыйнасьці | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасьць раён праўл. па 5 ас. | Па 7 сябр. | Па 9 сябр. | Агульн. кольк. сябр. праўл. | Рабочых | Служачых | Калгаснік. | Сялян аднаасобн. | Сябр. КП(б) | Кандыдат КП(б) | Камсам. | Беспарт. |
| 42 | 19 | 9 | 424 | 132 | 127 | 102 | 63 | 143 | 26 | 11 | 224 |

**Склад старшынь праўленьня**

Табл. 6

| Усяго старшынь | З іх прац. стала | Па сумяшч. | Па сацыяльн. становішчу | | | | Па партыйнасьці | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Рабочых | Служачых | Калгас. | Сялян аднаасобн. | Сябр. КП(б) | Кандыдат. | Камсам. | Беспарт. |
| 70 | 36 | 34 | 24 | 32 | 8 | 6 | 46 | 6 | — | 18 |

**Склад служачых**

Табл. 7

| Усяго служач. | З іх стала працуючых | Працуючых па сум. | Па сацыяльн. становішч. | | | | Па партыйнасьці | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Рабочых | Служачых | Калгасьн. | Сялян аднаасобн. | Сябр. КП(б) | Кандыдат. | Камсам. | Беспар. | Мужчын | Жанчын |
| 154 | 105 | 49 | 26 | 97 | 14 | 17 | 13 | 4 | 12 | 125 | 139 | 15 |

**Склад паляўнічых ячэек**

Табл. 8

| Усяго лічыцца сел. яч. | Фабрычна-заводзкіх | Гарадзкіх | Вайсковых | У саўгас. | Калгас. | Сел.-савет | Па сац. становішчу старшынь бюро яч. | | | | Па партыйнасьці | | | | Прэміяван. ячэек | Вылучана пал. брыг. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Рабочых | Служач. | Калгас. | Сялян адн. | Член КП(б) | Кандыдат. | Камсам. | Беспарт. | | |
| 944 | 43 | 26 | 4 | 18 | 219 | 634 | 57 | 78 | 269 | 540 | 73 | 31 | 18 | 822 | 143 | 256 |

Апрача вышэйпаказаных зьвестак аб росьце паляўнічай каапэрацыі, аб сацыяльным яе стане, цікава адзначыць, што Белкахотсаюз у гэтым годзе наладзіць вучот праваздімай работы па сыстэме паляўнічай каапэрацыі, менавіта аб становішчы культасьветна-масавай работы ў раённых т-вах, аб арганізацыйнай працы, аб грамадзкай працы ў паляўнічых ячэйках, аб інструктажы Белкахотсаюзу.

**Становішча культасьветна-масавай працы ў раёна-паляўнічых т-вах**

Табл. 9.

| Праведзена падпіска на паляўн. час. | На газэты | Маецца бібліатэк | Маецца насьцен газэт | Маецца чыр. кутк. | Маецца спорт. страл. гуртк. | Заключана ўмоў па сацспаборн. паміж раён | Заключана ўмоў па сацспаборн. паміж паляўн. яч. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 15876 | 4212 | 67 | 12 | 11 | 4 | 9 | 37 |

**Праведзена арганіз. праца ў раён. паляўн. т-вах** Табл. 10

| Праведз. агульн. сходаў па раён. | Сход па сел. ячэек | Сход паляўн. акт. раён. | Вытвар. рэвізій у раён. рэйкам. | Пастаўл. дакл. праўл. т-ву РВК | Пастаўл. дакл. бюро сельск. яч. у с.-с. | Выкл. член. з саюзу | Накладн. узыск. на сябр. саюзу | Выкр. выпад. бракан. | Падана заявак на ств. пал. кал. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 114 | 965 | 18 | 61 | 45 | 19 | 671 | 183 | 972 | 4 |

**Прынята ўдзелу раён. паляўніч. т-ваў і сельячэек у грамадзкай працы** Табл. 11

| Праведзена падпіска на пазыку 5-ці-годка ў 4 гады | На пазыку 3-ці рашаючы год | Рэалізавана аблігацый Трактарацэнтру | Аблігацый Асоавіяхіма | Сабрана на абароназдольнасьць краіны | Арганізавана чырв. паляўн. абоз па нарыхтоўцы хлеба | Арганізавана чырв. паляўн. абозаў па вывазцы хлеба |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 15350 | 21670 | 4915 | 483 | 7215 | 26 ячэек | 7 ячэек |

**Праведзена арганізацыйная праца інструктарскім складам Белкахотсаюзу** Табл. 12

| Усяго абсьледвана раённых т-ваў | З іх па 1 разу | Па 2 разы | Па 3 разы | Праведзен. рэвізый раён. т-ваў | Праведз. спэц. абсьл. трус. гасп. | Праведзен. абсьледван. заказьнік. і пал. гасп. | Складзена вытворчых плянаў у раёнах інструктар. | Пастаўлена дакл. інстр. у РВК | У райкоме | Праведзен. агульн. раён. сход. | Пасяджаньні праўленьня | Праведз. раён. куст. нар. старш. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 76 | 76 | 63 | 31 | 28 | 27 | 5 | 30 | 63 | 48 | 29 | 101 | 7 |

Зьмешчаныя вышэй лічбы гавораць за тое, што мы маем вялізарныя посьпехі ня толькі ў сэнсе ачышчэньня паляўнічай каапэрацыі ад кулацка-заможнага элемэнту, але і ў сэнсе росту нашае каапэрацыі за кошт калгасьнікаў, сялян беднякоў, ня плоцячых падатку, рабочых, служачых і моладзі, што ўпаўне адказвае далейшаму росту паляўнічай каапэрацыі і сучаснаму напрамку будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі. Але трэба сказаць і аб нашых недахопах. Напрыклад, што-ж датычыць налічча кадраў і іх кваліфікацыі, кіраўніцтвам нізавой сеткай і яго прыстасаванасьці да сучасных патрэб, дык тут трэба дабівацца вельмі і вельмі лепшага. З 70 старшынь раённых т-ваў стала працуюць толькі 36, а астатнія 34 па саўмяшчэньні. Большасьць рахункаводаў т-ваў працуе таксама па саўмяшчэньню. Наогул падбор кадраў сыстэмы вельмі цяжка спраўляецца ў перативарэньні намечаных мерапрыемстваў у жыцьцё. У сыстыме ёсьць 944 паляўнічых ячэйкі, якія, дзякуючы слабому кіраўніцтву з боку т-ваў, працуюць вельмі кепска. А адсюль вынікі: а) затрымліваецца пераход на вытворчы каляктыўны напрамак працы; б) пастаноўка рахункаводзтва і вучоту вельмі дрэнная; в) сацыялістычныя мэтады працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва слаба ўнядраюцца; г) эфэкт прынятага сыстэмай удзелу ў правадзімых грамадзкіх кампаній усё яшчэ нязначны, маючыяся паказацелі вельмі слаба адраджаюць працу ў гэтым напрамку; д) дасьцігнут пералом да пераходу сыстэмы трусагадоўлі, 48 проц. раённых т-ваў маюць уласныя трусагаспадаркі. Аднак разьвіцьцё трусагадоўлі ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі натыкаецца на вялікія перашкоды. Недахоп уласных сродкаў, няўключэньне зьвеньняў у плян снабжэньня будматар'ялам затрымлівае магчымасьць пашырэньня будаўніцтва і камплектаваньня стад.

е) У забесьпячэньні агне-боя прыладамі, зброяй сыстэма адчувае значны недахоп, што, бязумоўна, мае адбітак на пасьпяховасьці нарыхтовак пушмехсыравіны і мяса дзічы.

Інструктарскім абсьледваньнем выяўлена, што ў таваразвароце раённых зьвеньняў мае значнае месца затаварваньне цяжка рэалізуемых тавараў. Дзякуючы ўласным неплянавым закупкам самімі т-вамі, а таксама затаварваньню т-ваў з боку Белкахотсаюзу, у сыстэме стварылася напружанасьць грашовага становішча, што значна затрымлівае разьвіцьцё вытворчых мерапрыемстваў.

Спыняючыся коратка на аналізе арг.-культ. масавай рабоце сыстэмы, трэба прызнаць, што і тут ня ўсё добра. Арганізацыйны інструктарскі сэктар намеціў плянам на арганізацыйна-інструктарскай і культурна-масавай працы на 1932 год правесьці ў сыстэме рад мерапрыемстваў, для палепшаньня працы, галоўнейшыя з якіх:

1) Рэарганізацыя існуючых паляўнічых ячэек з пераводам іх на вытворчы напрамак. Арганізацыя паляўнічых арцеляй пры калгасах і паляўнічых брыгадах з паляўнічых аднаасобнікаў.

2) Выпрацоўка адзінай формы вучоту і рахункаводзтва ў раённых зьвеньнях і ўнядрэньня плянавых пачаткаў у рабоце.

3) Правядзеньне перакваліфікацыі кадраў, рахункаводаў, пушнікоў, трусаводаў шляхам каротка-тэрміновых курсаў-нарад і падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі, шляхам навучэньня іх праз завочныя курсы (паляўнічы тэхнікум).

4) Правядзеньне адначасовай справаздачнай перавыбарчай кампаніі нізавых паляўнічых зьвеньняў з абавязковым вылучэньнем сталых працаўнікоў—старшынь.

5) Пашырэньне культасьветнай працы абхопам падпіскай на часопіс „Паляўнічы Беларусі“ ня

меней 90 проц. паляўнічых. Арганізацыя пры кожным райтаварыстве чырвоных куткоў бібліятэк-перасовак, насьценгазэт, правядзеньне Усебеларускага зьлёту паляўнічых карэспандэнтаў з арганізацыяй адначасна выстаўкі існуючых насьценгазэт.

У дадатак арганізацыйна-інструктарскі сэктар ставіць перад праўленьнем Белкахотсаюзу наступныя задачы:

1) Хадайнічаць перад партыйнымі і ўрадавымі органамі аб вылучэньні для сыстэмы паляўнічай каапэрацыі неабходных кадраў.

2) Правесьці праз належныя органы зьмены ў статуце райт-ва аб выбарнасьці раённых кіруючых органаў паляўнічых т-ваў на 2 гады.

3) Хадайнічаць перад належнымі органамі аб разьмеркаваньні сродкаў.

4) Па магчымасьці палепшыць снабжэньне, не дапускаючы адправак няплянавых закупак тавараў у нізавую сець і іх заявак.

5) Даць даручэньне сэктару паляўнічай гаспадаркі распрацаваць плян арганізацыі прыпісных угодзьдзяў. Распрацаваць палажэньне аб рэгуляваньні паляўнічай гаспадаркі БССР і ўвайсьці з хадайнічаньнем перад урадавымі органамі аб выданьні асноўнага закону аб паляўнічай гаспадарцы.

Заг. Арг.-Інструк. сэктара Белкахотсаюзу
**Бабчонак.**

# Палепшым арганізацыйную працу Белкахотсаюзу

Няма чаго скрываць, што ў мінулым годзе ў галіне пастаноўкі арганізацыйнай працы, як і ў іншых галінах, былі прарывы. Так, напрыклад, шмат раённых т-ваў паляўнічых не ахоплены поўнасьцю рэвізійным абсьледваньнем, ад чаго ня былі ліквідаваны ў гэтых т-вах сваячасова прарывы ў той ці іншай галіне работы. Шмат меладся прарываў у асобных раённых т-вах па трусагадоўлі, аб чым была ўжо дана жорсткая крытыка ў нумарох „П. Б." за 1931 г. (Гл. № 10 „Тэрмінова наладзіць работу Лёзьнянскага т-ва паляўнічых". „Па Аршанскаму т-ву паляўнічых" № 11 „Бяз руля і без вятрыл"). Арганізаваная ў Лёзьнянскім раёне „культурная", паляўнічая гаспадарка, на якую бескарысна траціліся шмат грошай, ня гледзячы на тое, што туды, ня раз заяжджалі і інструктары Белкахотсаюзу, і старшыні праўленьня, ня мела пэўнай мэтавай устаноўкі ў сваім разьвіцьці і пакуль ня быў пасланы туды наш спэцыяльны карэспандэнт т. Сідарэнка, ня былі ўскрыты тыя безабразія, якія там утвараліся на працягу доўгага часу (Гл „П. Б." № 10 „Хто вінават").

На жнівень месяц 1931 году былі прызначаны выстаўкі і палявыя спробы паляўнічых сабак, але гэтыя выстаўкі чамусьці не адбыліся, ня гледзячы на тое, што без паляўнічага сабакі нямысьліма паляваньне і выкананьне плянаў як пушных нарыхтовак, так і нарыхтовак дзічыны, і на тое, што ў сэнсе сабакагадоўлі за апошнія часы ўсякая работа замёрла.

Асабліва дэрнна пастаўлена была культработа. За цэлы год Белкахотсаюз ня выдаў ніводнай брашуры, ніводнай лістоўкі. Наогул у справе выданьня паляўнічай літаратуры ў Беларусі — нейкая недарэчнасьць; тут яшчэ ня вырашана, хто павінен займацца гэтай справай — Белкахотсаюз ці выдавецтва „Калгасьнік Беларусі", у якім знаходзіцца часопісь „Паляўнічы Беларусі", орган цэнтральнага праўленьня Белкахотсаюзу і, да рэчы, зусім адарваны ад паляўнічага жыцьця. А між тым, на паляўнічую літаратуру, на танную і добрую кніжку ёсьць вялікі попыт ад паляўнічых мас.

Нічога ня зроблена за 1931 г. Белкахотсаюзам і ў галіне падрыхтоўкі кадраў да паляўнічай каапэрацыі і гаспадаркі, а між тым недахоп іх адчуваецца вельмі востра.

Наогул, трэба сказаць у парадку крытыкі і самакрытыкі, што на раду з вялікімі дасягненьнямі, паляўнічая каапэрацыя мела і цэлы рад недахопаў у некаторых галінах нашай работы, як, напрыклад, у галіне будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, падняцьця прадукцыйнасьці паляўнічага промыслу, у барацьбе з драпежнікамі, асабліва з ваўкамі, якія наносяць даволі вялікую шкоду нашай гаспадарцы і на зьнішчэньні якіх было завострана пытаньне паляўнічым друкам.

Для зьнішчэньня гэтых недахопаў Цэнтральным праўленьнем Белкахотсаюзу складзены плян арганізацыйнай працы на 1932 год. Гэтым плянам, з якім рэдакцыя азнаёмілася (хаця і ў чарнавіку і незацьверджаным Цэнтральным праўленьнем) прадугледжаны наступныя мерапрыемствы.

**Культпраца.** У 1932 годзе вылучыць некалькі бібліятэк і разаслаць раённым т-вам, арганізаваць некалькі бібліятэк перасовак, а таксама арганізаваць вучот культработы, праведзенай райтаварыствамі.

**Інструктаж.** Палепшыць і пашырыць інструктаж і рэвізійнае абсьледваньне з такім разьлікам, каб ахапіць усе райтаварыствы.

**Падрыхтоўка кадраў.** Завербаваць 70 слухачоў на завочны паляўнічы тэхнікум.

**Сабакагадоўля.** Правесьці выстаўку паляўнічых сабак і палявыя спробы.

**Кантрактацыя.** Узмацніць кантрактацыю, як самы дзейны спосаб нарыхтовак на раду з сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам.

**Калгаснае будаўніцтва.** Арганізаваць некалькі паляўнічых (камбінаваных з іншымі галінамі гаспадаркі) калгасаў.

**Пушныя і іншыя нарыхтоўкі.** Правесьці ўсебеларускі конкурс на прэміяваньне ўдарнікаў. Арганізаваць 2-х тыднёвыя курсы—нараду пушмехнарыхтоўшчыкаў.

Трэба сказаць, што нам удасца правесьці гэтыя мерапрыемствы па ажыўленьню работы паляўнічай каапэрацыі і будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі, разгарнуўшы жорсткую здаровую, бальшавіцкую крытыку і самакрытыку як у нізавых паляўнічых зьвеньнях, так і ў Белкахотсаюзе, нясупынна змагаючыся з правым і „левымі" апартунізмам і контррэвалюцыйным трацкізмам і з гнілым лібэралізмам да іх, змагаючыся за генэральную лінію нашае камуністычнае партыі—авангарду пралетарыяту.

Нам удасца ўзьняць прадукцыйнасьць паляўнічага промыслу на павінную вышыню і разьвіць паляўнічую гаспадарку толькі тады, калі мы ажыцьцявім 6 умоў тав. Сталіна, калі ліквідуем абязьлічку, безгаспадарчасьць, правядзем зьдзельшчыну, пяройдзем на новыя сацыялістычныя мэтады працы, даб'емся соцыялістычнага накапленьня ў кожным раённым т-ве.

**Ш.**

# Кантрольныя лічбы на 1932 год па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі

Падняцьце прадукцыйнасьці паляўнічага промыслу і выкананьне плянаў пушных, мехсыравінных і іншых нарыхтовак паляўнічай каапэрацыі патрабуе і адпаведнага ўкладаньня сродкаў у паляўнічую гаспадарку, бо, як вядома, для таго, каб нарыхтаваць пушніну, трэба мець зьвера, з якога можна было б сабраць яе. А для таго, каб зьвер быў, неабходна праводзіць адпаведную работу ў паляўнічых угодзьдзях.

З гэтае прычыны ў 1932 годзе Белкахотсаюз мяркуе адчыніць 68 новых заказьнікаў, з іх на лясную дзічыну 25 з тым разьлікам, каб у кожным раёне было ня менш аднаго, улічваючы ўжо раней адчыненыя, на шэрую курапатку 2 і на бабра—12. Усяго на адчыненьне заказьнікаў па БССР мяркуецца ўкласьці сродкаў прыблізна 2.340 руб.

Але толькі адчыненьне заказьнікаў, як гэта мы бачым з ранейшай практыкі, без вядзеньня там адпаведнай работы, даць паляўнічай гаспадарцы ў сэнсе павялічэньня дзічыны нічога ня можа. Неабходна гэтыя заказьнікі аслупаваць, ахоўваць, рабіць падсеўку траў і, нават, калі патрабуецца, падсадку дзічыны. На аслупаваньне заказьнікаў Белкахотсаюзам адпускаецца 5.850 руб. У кожным заказьніку павінен быць вартаўнік, які ахоўваў-бы заказьнік ад браканьераў, бадзячых сабак, катоў і іншых драпежнікаў, зьнішчаючы апошніх. На ахову заказьнікаў адпушчана 1.040 руб.

Асаблівае значэньне набывае ахова бабровых заказьнікаў. Калі ў заказьніку на іншую дзічыну можна дазволіць пасьбу жывёлы [1]), касіць траву, і, наогул, дазволіць умяшацельства чалавека ў прыроду, дык у раёне колёніі баброў гэтага дапускаць ні ў якім разе нельга. Асабліва шкодна адбіваецца на размнажэньні баброў лоўля рыбы. Як мы ўжо паведамлялі ў нумарох нашае часопісі за 1931 год, рыбакі нярэдка вылоўліваюць баброў сецямі. Выходзячы з гэтага, Белкахотсаюз адпускае на ахову бабровых заказьнікаў асобныя сродкі ў разьмеры 2.160 рублёў.

Падсеўка траў у заказьніках і паляўнічых угодзьдзях зараз набывае вялізарнае значэньне. Ёсьць такія паляўнічыя ўгодзьдзі, дзе дзічына ня можа знайсьці сабе прытулку, напрыклад, не запаханыя курганы з пяскамі, непадыходзячая для засеву сельска-гаспадарчымі культурамі. З вялізарным посьпехам для размнажэньня дзічыны можна гэтыя курганы засеяць травамі, як, напрыклад, жарнаўцом, і іншымі. Дзічына тут знойдзе прытулак ад драпежнікаў. На падсеўку траў Белкахотсаюзам, якую мяркуецца ўчыніць у 25 заказьніках, адпушчана 2.675 рублёў.

Другой важнай работай у заказьніках узімку зьяўляецца падкормка дзічы. Асабліва вялікае значэньне падкормка мае для капытных зьвяроў, потым для такіх птушак, як шэрая курапатка, і для зайцоў. На падкормку адпускаецца на 25 заказьнікаў 2.675 руб. Усяго на правядзеньне работы ў заказьніках адпушчана 17.910 рублёў.

У 1932 годзе мяркуецца арганізаваць 60 прыпісных гаспадарак у 20 раёнах. Прыпісныя гаспадаркі дапамогуць зжыць абязьлічку ў паляўнічай гаспадарцы, дапамогуць падняць прадукцыйнасьць паляўнічага промыслу, унясуць плянавасьць у эксплёатацыю паляўнічых угодзьдзяў. Для арганізацыі гэтых 60 паляўнічых прыпісных паляўнічых гаспадарак патрабуюцца паляўніча ўпарадкавацелі. Выходзячы з папярэдніх даных, з прыблізных выдаткаў, толькі на правядзеньне арганізацыйнай работы па прыпісцы гаспадарак вызначана 4.500 руб. Апрача таго для набыцьця прыладаў для гэтай катэгорыі гаспадарак (стрэльбы, пасткі, шнуры абкладныя, сабакі, спэцвопраткі, і непрадугледжаныя выдаткі) вызначана 2 350 рублёў. Усяго на правядзеньне работы па арганізацыі прыпісных гаспадарак вызначаецца 6.850 рублёў.

Зразумела, што калі мы ня будзем змагацца з драпежнікамі, асабліва з ваўкамі, бадзячымі сабакамі, катамі, дык мы не дасягнем значных посьпехаў у падняцьці прадукцыйнасьці паляўнічага промыслу.

Ваўкі наносяць вялікую шкоду сельскай і паляўнічай гаспадарцы. Утрыманьне кожнага ваўка нам абыходзіцца ў некалькі сот рублёў кожны год.

Між тым, прэмія, якая выдаецца паляўнічаму за зьнішчэньне ваўка, вельмі малая. Белкахотсаюз рашыў гэтую прэмію, для палепшаньня барацьбы з ваўкамі, павялічыць.

Ня меншую шкоду, чым ваўкі прыносяць паляўнічай гаспадарцы і бадзячыя сабакі і каты. На 1932 год вытворчым плянам прадугледжана зьнішчыць ня менш 600 ваўкоў старых, 400 маладых і 2000 шчанюкоў. Бадзячых сабак мяркуецца зьнішчыць каля 30.000 і катоў 30.000 што дасьць магчымасьць нарыхтаваць прыблізна на 100.000 рублёў мехсыравіны.

На прэміяваньне па зьнішчэньню драпежнікаў вызначана 27.000 руб. За кожнага забітага ваўка паляўнічы будзе атрымліваць па 15 руб., за ваўчыцу 20 руб., ваўчаня 5 руб. На зьнішчэньне пярнатых драпежнікаў вызначана 6.000 руб. Прэмія будзе такая: за каршуна куратніка—5 руб., перапялятніка—1 руб. Для прэміяваньня брыгад па зьнішчэньню драпежнікаў вызначана таксама 500 р.

Белкахотсаюзам мяркуецца ў гэтым годзе арганізаваць 10 паляўнічых калгасаў. Вядома, што з аднаго паляваньня ва ўмовах Беларусі калгасы жыць ня змогуць, а таму яны будуць апрача паляваньня і разьвядзеньня дзічыны займацца таксама і трусагадоўляй, сабакагадоўляй, ці чым-небудзь іншым.

Для арганізацыі правільнай паляўнічай гаспадаркі, для вядзеньня ў ёй работы па падняцьцю прадукцыйнасьці паляўнічага промыслу неабходна пасіліць культмасавую працу. Белкахотсаюз пастанавіў у будучым годзе выпусьціць 15.000 экз. паляўнічай літаратуры на 15.000 рублёў. Апрача таго будуць арганізаваны дзесяцідзённыя курсы, на правядзеньне якіх адпускаецца 2.500 рублёў. Мяркуецца правесьці камандыроўкі ў іншыя рэспублікі для вывучэньня там паляўнічай гаспадаркі і перанясеньня іх вопыту ў нашу паляўнічую гаспадарку. Апрача таго 150 р. адпушчана на набыцьцё літаратуры ад іншых выдавецтваў.

[1]) Пасьбы жывёлы ні ў адным заказьніку не павінна дапушчацца. Рэд.

На сабакагадоўлю адпушчана на 1932 год 2.000 р. За гэтыя сродкі павінны быць арганізаваны выстаўкі і палявыя спробы паляўнічых сабак, вывадкі ў раёнах, адбор каштоўных завадзкіх вытворцаў і дапамога іх уласьнікам, а таксама кантрактацыя прыплоду ад заводзкіх сабак для раздачы яго паляўнічым.

Прымаючы пад увагу, што барацьба з браканьерамі бяз удзелу міліцыі і лясной варты пасьпяхова праходзіць ня можа, вылучана 1.500 рублёў на прэміяваньне міліцыі і лясной варты, якія будуць весьці барацьбу з браканьерамі.

Такім чынам кантрольныя лічбы па вытворчаму пляну Белкахотсаюзу складаюцца з 79.850 р. Трэба толькі пажадаць Белкахотсаюзу, каб ім гэтыя сродкі былі выкарыстаны па свайму прызначэньню, гэта значыць на падняцьце прадукцыйнасьці паляўнічага промыслу.

## Снабжэньне паляўнічых падпарадкаваць выкананьню плянаў

Для выкананьня тых плянаў па нарыхтоўках пушніны, мехсыравіны і дзічы мяса, якія складаюцца Белкахотсаюзам, неабходна наладзіць бесьперабойнае снабжэньне паляўнічых боепрыладамі. Між тым, з практыкі мінулага году мы бачым, што ў гэтай галіне, у галіне своечасовага снабжэньня паляўнічага стрэльбай, шротам, порахам былі недахопы, быў у наяўнасьці бюракратызм з боку некаторых раённых т-ваў паляўнічых, былі нікуды ня вартыя адносіны да своечасовага снабжэньня паляўнічага ўсімі патрэбнымі боепрыладамі. І зусім ня дзіва, калі некаторыя паляўнічыя ячэйкі штурмавалі свае райтаварыствы, а апошнія, Белкахотсаюз—„Шліце шрот! Недахоп шроту ставіць пад пагрозу выкананьне тых ці іншых відаў нарыхтовак“. Амаль у кожным нумары адзначалася аб бюрактарычных адносінах таго ці іншага раённага таварыства да забесьпячэньня паляўнічых боепрыладамі, асабліва шротам, аб тым, што паляўнічым якой-небудзь ячэйкі няма чым страляць дзічыну. І зусім нельга сказаць таго, каб шроту не хапала наогул. Праўда, яго ёсьць не настолькі шмат, каб выпускаць набоі на страляньне па бутэльках ці шапках, як гэта робяць некаторыя паляўнічыя, але зусім дастаткова для таго, каб выканаць пляны па пушніне, мехсыравіне і мясу дзічы.

Галоўным чынам недахоп шроту меўся толькі ў некаторых раённых т-вах і ячэйках паляўнічых, і скрываўся гэты недахоп у пастаноўцы работы як самага раённага т-ва, так і Белкахотсаюзу. Гэта відаць хаця-б з таго, што некаторыя паляўнічыя ячэйкі, як, напрыклад, Латыгаліцкая Халопеніцкага раёну (гл. заметку „З-за валакіты засталіся бяз шроту“, „ПБ“ № 10, 1931 г.) ня ведалі нават, дзе ім належыць атрымаць боепрылады—ці ад Халопеніцкага раённага т-ва, ці ад Лепельскага і ў выніку не атрымалі ні адгэтуль, ні адтуль. Другое, што тармазіла своечасовае снабжэньне шротам паляўнічых, гэта тое, што ў некаторых раённых таварыстваў шрот і іншыя прылады разьмяркоўваліся няправільна; гэтыя прадметы першай неабходнасьці для паляўнічага выдаваліся ня тым, хто здаваў пушніну і дзічыну, як гэта было ў Бярэзінскім раённым т-ве паляўнічых, а сваякам і знаёмым працаўнікоў райтаварыства і г. д. Другім важным недахопам у гэтай рабоце было і тое, што раённыя т-вы несвоечасова клапаціліся аб тым, каб мець к сэзону паляваньня ўсё неабходнае для яго ўтварэньня і пачынаўся сэзон, а паляўнічыя яшчэ ня мелі боепрыладаў у сваім распараджэньні. Таксама мела ўплыў у гэтай галіне і тое, што Белкахотсаюзу прыходзілася самому здабываць ад розных прадпрыемстваў, вырабляючых прадметы паляваньня, усе боепрылады, заключаючы з кожным у паасобку дагаворы. Ня было такога цэнтру, з якім Белкахотсаюз мог-бы заключыць дагавар на ўсе неабходныя прылады і своечасова атрымаць іх. Такім чынам і тут былі кой-якія тормазы. Было і яшчэ цэлы шэраг перашкод у рабоце нашай сыстэмы, якія адбіваліся на своечасовым забесьпячэньні паляўнічых мас боепрыладамі, як, напрыклад, недахоп сродкаў, ня гібкасьць тавараправадзячай сеткі і шмат іншых.


Сартыруюць лісіц.

Зараз усе гэтыя недахопы павінны быць зжыты. Па-першае, у Маскве арганізаваўся ўсесаюзны цэнтр паляўнічай кааперацыі. Гэты цэнтр апрача іншых задач чыста паляўнічага такога характару, г. зн. падняцьця прадукцыйнасьці паляўнічага промыслу, вывучэньня паляўнічай фаўны на ўсёй тэрыторыі Савецкага саюзу і г. д., займецца і задачай разьмеркаваньня па саюзах паляўнічых саюзных рэспублік усіх боепрыладаў. Белкахотсаюз ужо ня будзе заключаць дагавары, скажам, на пастаўку шроту для паляўнічых мас Беларусі з маскоўскім шроталіцейным заводам і на пастаўку стрэльбаў з аружтрэстам. Будзе заключан дагавор толькі з Усесаюзным цэнтрам паляўнічай кааперацыі на пастаўку ўсіх боепрыладаў, як шрот, порах, стрэльбы, пыжы і г. д. Такім чынам снабжэньне паляўнічых боепрыладамі па ўсяму СССР будзе згрупавана ў адных руках, што ўнясе больш плянавасьці ў гэту справу, будзе ўлічана ўдзельная вага кожнага рэспубліканскага цэнтру ў пушнанарыхтоўках і г. д. і, вядома, палепшыць снабжэньне.

Вялікі ўплыў зробіць на паляпшэньне снабжэньня паляўнічых боепрыладамі і павялічэньне таваразвароту. Калі ў мінулым годзе ў таваразварот было ўкладзена 1.250.000 рублёў, дык у гэтым годзе мяркуецца давесьці да 3.000.000 рублёў. Адзін мільён рублёў мяркуецца ўкласьці толькі ў снабжэньне паляўнічых стрэльбамі, агнебоепрыладамі,

што павялічыць суму звароту па гэтых прадметах на 35 проц., а па адных стрэльбах на 40 проц. У 1931 г. атрымана стрэльбаў (ламанак двохрульных) 600 штук, у 1932 г. мяркуецца атрымаць іх ня менш 1.000 штук. Такім чынам часовы недахоп стрэльбаў на рынку, які наглядаўся ў 1931 г., будзе на некалькі зжыты. У мінулым годзе стрэльбаў аднарульных было атрымана 1.000 шт., а ў гэтым годзе павінны атрымаць 2.000 шт. Іншых паляўнічых боепрыладаў было атрымана ў мінулым годзе прыблізна на 320.000 руб., у гэтым годзе мяркуецца давесьці да 600.000 руб. Павялічыцца сума звароту і па промтаварах, якія адпускаюцца на прэміяваньне паляўнічых за зданую пушніну, мехсыравіну і дзічыну прыблізна на 75 проц. супроць мінулага году. Між іншым Белкахотсаюз мяркуе ўвесьці дыфэрэнцыяцыю ў прэміяваньні паляўнічых прамтаварамі і наогул падняць процант прэміяваньня для аднаасобнікаў да 35, для калгасьнікаў 40 з агульнай сумы зданай пушніны. Значна павялічыцца таваразварот і за кошт мехтавараў, спартыўных прыладаў і інш.

Але для таго, каб павялічыць таваразварот і палепшыць снабжэньне паляўнічых боепрыладамі і іншымі таварамі, неабходна зрабіць тавараправодзячую сетку гібкай, адпавядаючай тэмпам сацыялістычнага будаўніцтва.

Зараз сыстэма паляўнічай каапэрацыі мае недахоп сродкаў. Між тым раённыя таварыствы павінны Белкахотсаюзу па рахунках 110.000 руб., апрача таго прыблізна 150.000 руб. мяркуецца спагнаць паявой запазычанасьці, што разам узятае складае 260.000 руб.

Павялічваючы таваразварот на 125 проц., Белкахотсаюзу неабходна для палепшаньня плацежаздольнасьці па прад'яўленых яму рахунках мець і сродкі, таму неабходна дабіцца ад райтаварыстваў пакрыцьця запазычанасьці. **Мікалаеў.**

# „Рабселькоры—камандзіры грамадзкай думкі“

Адным з буйнейшых і істотнейшых недахопаў у барацьбе за рэарганізацыю паляўнічай гаспадаркі наогул і ў пастаноўцы культмасавай, палітвыхаваўчай работы паляўнічай каапэрацыі ў прыватнасьці,—на сёнешні дзень зьяўляецца поўнае ігнараваньне нашымі райтаварыствамі паляўнічых справы арганізацыі і пашырэньня рабселькораўскага руху сярод паляўнічых мас. Тым больш значным, вельмі адмоўным, проста нецярпімым, гэты недахоп робіцца таму, што ён мае месца ў абсалютнай большасьці нашых раёнаў, таму што абсалютная большасьць нашых райтаварыстваў, відавочна, не разумеюць і яўна недаацэньваюць той ролі, якую адыгрываюць і павінны адыгрываць рабселькоры ў нашым сацыялістычным будаўніцтве.

А між тым вызначэньне ролі рабселькораў, як **„камандзіраў грамадзкай думкі“**, зробленае т. Сталіным, у аднолькавай ступені абавязвае ўсе арганізацыі і ўстановы ўдзяляць максымальную ўвагу справе пашырэньня і разьвіцьця рабселькораўскага руху, шляхам арганізацыі шматлікіх рабселькораўскіх брыгад, выяўленьня рабселькораў-адзіночак і г. д. І таму трэба проста сказаць зараз, што і наша паляўнічая сыстэма не павінна ўяўляць сабою нейкага выключэньня з гэтага агульнага і абавязковага для ўсіх правіла.

Аднак, факты, што ёсьць на сёнешні дзень і характарызуюць сабою дачыненьне паляўнічай сыстэмы да арганізацыі рабселькораўскага руху, в усёй відавочнасьцю сьцьвярджаюць адваротнае. Гэтыя факты красамоўна гавораць аб тым, што нашы райтаварыствы яшчэ і да гэтага часу стаяць у баку ад гэтай сур'ёзнай і вельмі адказнай працы. Бо чым-жа іншым вытлумачыць тое зусім ненармальнае становішча, што зараз сярод 70 раёнаў бадай ці можна знайсьці такі раён, у якім з паляўнічых была-б арганізавана рабселькораўская брыгада, у якім на вучоце ў райтаварыстве былі-б хоць рабселькоры—адзіночкі. Больш таго, мы проста і катэгарычна заяўляем зараз, што такога раёну ў нас пакуль што няма.

Можа хто-небудзь з „ганарыстых“ раённых работнікаў (па лініі паляўнічай каапэрацыі) скажа нам, што такое сьцьверджаньне наша—**сэнсацыя!** Такога мы, у сваю чаргу, папросім указаць нам той раён, дзе рабселькораўскі рух сярод паляўнічых узьнят на належную вышыню, дзе райтаварыства пашырае гэты рух, кіруе ім.

Можа хто зазначыць нам далей, што паляўнічым няма пра што пісаць. Такому мы з свайго боку, на выпадак яго жаданьня, укажам на рад тых недахопаў, а таксама і дадатных момантаў, што ёсьць у рабоце нашых райтаварыстваў і ні ў якім разе ў патрэбнай ступені не асьвятляюцца на старонках адзінай у БССР часопісі паляўнічых—„Паляўнічым Беларусі“. Пакуль-жа параім такому ўважліва чытаць гэту часопісь, дзе ў пэўнай ступені па цэлым радзе т-ваў (Лёзьнянскаму, Аршанскаму, Касьцюковіцкаму, Клімавіцкаму, Бабруйскаму і інш.) ужо адзначаны як дасягненьні ў рабоце, так і недахопы.

Але-ж як бы там ня было, а зараз, ня гледзячы на тое, што **прынцыпова** пытаньне важнасьці і неабходнасьці разьвіцьця рабселькораўскага руху даўно ўжо вырашана, у дачыненьні да нашых раённых паляўнічых т-ваў, тым ня менш, прыходзіцца сьцісла паўтараць гэту элемантарную ісьціну. Прыходзіцца паўтараць таму, што яны стаяць зараз перад пільнай неабходнасьцю зрабіць рашучы пералом у сваёй рабоце, накіраванай на ажыўленьне гэтага руху сярод паляўнічых. А з гэтага пункту гледжаньня зусім заканамерным зьяўляецца пытаньне—чаму рабселькораўскі рух мае для нас такое выключнае значэньне і чым вымагаецца яго неабходнасьць для нас? Адказ на так пастаўленае пытаньне можа быць наступным.

Як і ўсе іншыя галіны народнай гаспадаркі, наша паляўнічая гаспадарка падлягае зараз агульным законам сацыялістычнай рэканструкцыі. Гэта-ж апошняе вымагае ад нас такой арганізацыі яе, якая-б адпавядала тым запатрабаваньням і задачам, што пастаўлены перад ёю сацыялістычным будаўніцтвам. Пры чым, паколькі **канчатковая мэта і сэнс** будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі зводзяцца да неабходнасьці рэгуляваць разьвядзеньне і захаваньне ўсялякіх аб'ектаў паляваньня, у шырокім сэнсе слова, што ў сваю чаргу вымагаецца неабходнасьцю атрымоўваць рознага роду прадукты паляўнічага промыслу,—пастолькі нам патрэбна зараз такая

арганізацыя самай паляўнічай гаспадаркі, якая-б дазваляла нам вырашыць такім чынам сфармуляваную задачу.

З гэтага вось пункту гледжаньня робіцца зусім відавочнай неабходнасьць арганізацыі ў нас цэлага раду спэцыяльных паляўнічых саўгасаў і калгасаў, прыпісных угодзьдзяў, заказьнікаў, запаведнікаў і г. д. Усе мерапрыемствы і партыі і ўраду ў даны момант накіраваны акурат на арганізацыю ўсіх гэтых фэрм. Гэтым-жа занят зараз і кіруючы паляўнічы ворган—Белкахотсаюз.

Але-ж было-б шкоднай памылкай, блізарукасьцю, не крытычнымі адносінамі да працы і неразуменьнем гэтай справы сьцьвярджаць, што арганізацыя пададзеных гаспадарак можа быць наладжана бяз удзелу ў ёй перш за ўсё шырокіх паляўнічых мас. Было-б яшчэ большай памылкай сьцьвярджаць, што працэс гэтай арганізацыі праходзіць зараз усюды гладка, без памылак, недахопаў і г. д. Бо досыць назваць тут хоць бы некалькі гаспадарак, скажам, трусагадоўчых (Дабрамысьлянскую—у Лёзьнянскім раёне, дзьве гаспадаркі—у Пухавіцкім раёне, у Жлобінскім і інш.) з тымі недахопамі, што ёсьць там (аб іх у папярэдніх нумарох нашай часопісі мы мелі выпадак гаварыць), каб пераканацца ў адваротным. Ї таму, паколькі пытаньне стаіць менавіта такім чынам, роля рабселькораў у вырашэньні гэтага пытаньня мае выключнае значэньне, бо перад імі ў данай сувязі і стаіць задача перш за ўсё высьвятленьня і недахопаў і дасягненьняў у будаўніцтве данай паляўнічай гаспадаркі, што будзе станавіць сабою адну з форм абмену вопытам паміж раёнамі, адну з форм барацьбы праз друк за больш рацыянальнае і эфэктыўнае разьвіцьцё гаспадаркі на аснове ажыцьцяўленьня шасьці ўмоў т. Сталіна, адну з форм разьвіцьця здаровай бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі. Да гэтага-ж трэба аднесьці і ўсялякія прапановы з боку паляўнічай грамадзкасьці, накіраваныя на дасягненьне гэтай-жа мэты.

Такім чынам разьвіцьцё і кіраўніцтва рабселькораўскім рухам з боку райтаварыстваў уяўляе і павінна ўяўляць сабою адзін з галоўнейшых сродкаў прыцягненьня паляўнічых мас да практычнаг удзелу ў будаўніцтве нашай паляўнічай гаспадарк Апрача гэтага перад т-вамі паляўнічых стаіць задача кіраваць работаю і брыгад. і гурткоў, і асобных рабселькораў, задача накіроўваць іх дзейнасьць і актыўнасьць па жаданаму напрамку. А гэта ў сваю чаргу вымагае перш за ўсё шчыльнай сувязі з імі, праз пэрыядычнае скліканьне нарад, пастаноўкі інфармацыйных дакладаў аб рабоце раённых т-ваў, аб пэрспэктывах разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі данага раёну, аб канкрэтна праводзімых у кожны даны момант палітычных кампаніях наогул і чарговых мерапрыемствах у дачыненьні да паляўнічай кааперацыі—у прыватнасьці. Бо трэба памятаць, што дзейнасьць рабселькораў будзе мець больш важнае і практычнае значэньне толькі тады, калі яна будзе выходзіць з дасканалага разуменьня і веданьня кожным з іх тых задач, што стаяць у кожны даны момант перад пэўным раёнам і перад паляўнічай сыстэмай яго.

Далей, поруч з задачамі будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, перад намі стаіць ня менш важная задача і эксплёатацыі гэтай гаспадаркі. Бо для кожнага павінна быць зразумелым тое, што **эксплёатацыя** гаспадаркі зьяўляецца па сутнасьці адваротным бокам яе будаўніцтва. І таму апошняя павінна быць арганізавана такім чынам, каб, з аднаго боку, яна забясьпечвала б выкананьне плянавых заданьняў па ўсіх відах загатовак, а з другога—не падрывала-б **асноў** самой гаспадаркі і ня шкодзіла-б **перспэктывам** яе далейшага разьвіцьця. Практычна гэта прадугледжвае перш за ўсё неабходнасьць плянава вызначаць раёны для ўтварэньня ў іх адстрэлу пэўных аб'ектаў паляваньня. А гэта ў сваю чаргу вымагае дасканалага вывучэньня фауны кожнага данага раёну.

Але з тае прычыны, што зараз у нас амаль ва ўсіх раёнах наглядаецца адсутнасьць адпаведных работнікаў—спэцыялістаў, якія-б з так пастаўленай задачай справіліся, удзел у гэтай справе рабселькораў—паляўнічых можа і павінен адыгрываць выключную ролю. Менавіта яны павінны дапамагчы і раённым т-вам і цэнтральным установам паляўнічай сыстэмы выявіць наяўнасьць у даным раёне таго альбо іншага віду зьвера, птушак, рыбы і г. д., а таксама і высьветліць умовы далейшага іх культываваньня. Такім чынам папярэдняя, хай сабе спачатку нават і павярхоўная, чыста апісальная, работа па выяўленьні маючыхся ў кожным раёне аб'ектаў паляваньня можа **быць папярэдным чарнавым**, так сказаць, матар'ялам для ўтварэньня больш дасканалых і сталых дасьледваньняў, шляхам вылучэньня спэцыяльных навукова-дасьледчых экспэдыцый і іншых форм дасьледваньня.

Ї таму перад райтаварыствамі і ў данай сувязі паўстаюць задачы праз належную работу і рабселькорамі, накіраваць іх увагу на вырашэньне гэтай задачы. Як і ў першым выпадку зрабіць апошняе можна, бясспрэчна, праз пастаноўку спэцыяльных дакладаў на зьлётах, нарадах і інш., праз вызначэньне канкрэтных заданьняў, для рабселькораўскіх брыгад, груп, рабселькораў адзіночак і г. д.

Наступным момантам, з эксплёатацыяй паляўнічай гаспадаркі зьвязаным, зьяўляецца, зразумела, і арганізацыя **ўласна-паляваньня**, у кожны даны момант што прадугледжвае атрыманьне паляўнічай прадукцыі ў шырокім сэнсе гэтага разуменьня. Канкрэтна гэта вымагае сталага кантролю над захаваньнем правіл паляваньня паляўнічымі, нагляду за захаваньнем тых аб'ектаў, адстрэл якіх у даным раёне забаронен, вымагае барацьбы з браканьерамі і г. д. Апроч гэтага перад райтаварыствамі ў данай сувязі стаяць задачы арганізацыі калектыўных форм паляваньня (утварэньне паляўнічых брыгад, груп пры калгасах, саўгасах, прадпрыемствах і інш), а таксама і работы сярод іх, накіраванай на падвышэньне якасьці кожнага паляўнічага. Да гэтага апошняга належыць, нарэшце, і забясьпечаньне паляўнічых боепрыладамі і ўсім неабходным для ўтварэньня паляваньня.

У гэтым выпадку рабселькоры—паляўнічыя таксама павінны прымаць самы актыўны ўдзел, а ў зьвязку з гэтым райтаварыствы і тут павінны ўмець скарыстаць іх, пры дапамозе тых жа сродкаў, аб якіх мы казалі ўжо вышэй.

Нарэшце апошняе. Усё сказанае намі вышэй наконт работы райтаварыстваў па разьвіцьці рабселькораўскага руху сярод паляўнічых немагчыма ажыцьцявіць без належнай пастаноўкі **культурна-масавай, палітвыхаваўчай работы сярод іх**. Бо, зразумела, што кожны рабселькор-паляўнічы здолее прынесьці найбольшую карысьць у тым выпадку, калі ён будзе стаяць на ўзроўні разуменьня тых задач, што

(*Працяг гл. на 13 стар.*)

# СТРЫХНІН—НА БАРАЦЬБУ З ВАУКОМ

Шмат ужо гаварылася аб зьнішчэньні ваўка, а ён і дагэтуль жыве і плодзіцца ў нашых лясох. Так, напрыклад, быў зьмешчаны ў часопісі „П. Б." № 7—8, 10, 11 артыкул Тамаша аб зьнішчэньні ваўкоў, у якім аўтар зусім не закрануў вельмі важнага способу зьнішчэньня ваўкоў стрыхнінам, аб якім я і хачу сказаць некалькі слоў.

Пры адным слове—стрыхнін шмат хто палохаецца і разводзяць рукамі:—хіба можна дапусьціць такую атруту для вольнага карыстаньня, ды яшчэ ў сельскай мясцовасьці? Адны даводзяць, што стрыхнін нібы мае здольнасьць перадаваць сілу сваёй атруты ў сокі травы, будучы нават высыпаным на сьнег зімой і даволі жывёле ўвесну зьесьці на гэтым месцы вырасшую траву, як яна загіне[1]). Другія прадбачаць пагалоўнае зьнішчэньне лісіц, пясцоў, сабак і інш. Некаторыя нават прыводзяць факты, (наколькі гэтыя факты сапраўдныя), што у Дзяробінскім раёне (у нізоўях Енісея, у Тураханскім краі) у 1926 годзе, адзін юрак, адкачоўваючы ўвесну з зімніх качэвішчаў да летніх, на дарозе знайшоў звыш 300 эгніўшых пясцоў, якія загінулі ад стрыхніна. На жаль, не сказалі, якой даўжыні і якую паласу з абодвых бакоў дарогі захапіла падарожжа юрака. Апрача таго, замаўчалі і аб тым, ці было ўстаноўлена атручэньне стрыхнінам пясцоў вэтэрынарным урачом. Між іншым, хай сабе факты атручэньня будуць сапраўдныя, з гэтым спрачацца і няма чаго.

Стрыхнін не павінен адпускацца без разбору ўсім і кожнаму, аб гэтым я заўсёды казаў і кажу. Саюзы павінны апускаць стрыхнін толькі сваім членам і ня ўсім; дзе няма саюзаў—стрыхнін адпускаюць лясныя або зямельныя органы па шчыльнаму выбару, абавязкова снабжаючы таго, каму даецца стрыхнін, інструкцыяй: як зьвяртацца з ім, як прыгатаўляць пілюлі і начынаць прынаду[2]).

Па маёй думцы, пламя запаленай сьвечкі ў неасьцярожных руках куды небясьпечней, чым стрыхнін пры ўмелым абыходжаньні. Апрача таго наш савецкі паляўнічы ўжо дастаткова дысцыплінаваны і даволі разьвіт палітычна і наогул, добра ва ўсім разьбіраецца і пойдзе па таму шляху, які паказан у інструкцыі для карыстаньня стрыхінам. Што стрыхнін можа адыграць выключную ролю ў справе зьнішчэньня ваўкоў, супроць гэтага ніхто супярэчыць ня можа. Уся бяда заключаецца ў тым, што мы, як было ўжо сказана, баімся пусьціць стрыхнін у справу з-за небясьпекі.

Небясьпека не сапраўдная. Нельга-ж з-за несапраўднай небясьпекі не дапасоўваць самы найлепшы сродак, калі гэтага патрабуе неабходнасьць. Каб зьнізіць небясьпеку, або зусім яе зьняць, трэба карыстацца зьмешчанай ніжэй інструкцыяй.

Стрыхнін—атрута і вельмі моцная. Ён мае надзвычайна горкі смак і ўяўляе адзін з самых моцных расьлінных атрут. Для ўзрослых людзей 0,03 гр. ужо могуць быць сьмяротнымі. Не абавязкова, каб гэтая атрута пападала праз рот, дастаткова папасьці ў кроў праз кожу. Жывёлы дохнуць, як толькі атрута пападзе на язык[1]). Ліс, напрыклад, ніколі не праглыне пілюлі,—раскусіць яе і паваліцца крокаў на 10—20 ад таго месца. З гэтага відаць, наколькі трэба быць асьцярожным пры абыходжаньні з гэтай атрутай.

Калі стрыхінам пасыпаць мяса, дык яно прапітваецца гораччу. Воўк, як-бы галодны ня быў, але, пасмакаваўшы атручанага мяса, есьці яго ня будзе. Каб замаскаваць прысутнасьць стрыхніну, яго ў дастатковай колькасьці ўводзяць у прынаду праз пілюлі. Пілюлі прыгатаўляюцца двума рознымі спосабамі; стрыхнін зьмешваюць з парашком аравійскай камедзі двувуглекіслай содай. Калі камедзі няма, можна ўзяць добрую пшанічную муку,—гэта злучэньне дакладна зьмешваецца з прыбаўкай па кроплях чыстай вады пакуль выйдзе густое цеста. З атрыманага цеста скатваюцца пілюлі, велічыней з гарошыну[2]). Пілюлі трэба змазаць моцна пахучым росчынам, каб закрыць горач (? рэд.) стрыхіна. Прыгатаваньне такіх пілюль выклікае нямала клопатаў.

Другі спосаб. Стрыхнін насыпаецца ў васкавыя капсулі. Спосаб просты, вялізарных клопатаў не дае, а сіла атруты ніколькі не слабее, бо стрыхнін пападае зьверу не расчыненым, чыстым. Апрача таго захоўваецца гадамі, будучы герматычна запакаваным. Аб прыгатаваньні пілюль гэтым спосабам я і буду гаварыць.

### Капсулі

Капсюлі прыгатаўляюцца з чыстага белага воску. Воск гэты на марозе вельмі кволы, ад націсканьня крышыцца, а гэта важна з тае прычыны, што стрыхнін не затрымліваецца ў сьценак капсуля; увесь высыпаецца, а чым больш пападзе ў рот зьверу, тым мацней і яго атрута.

Дыямэтр капсуля 9 *мм*, такая-ж глыбіня па сьценцы да вакругленьня дна. Каб атрымаць капсуль, трэба зрабіць форму. Для гэтага кавалак дрэва (бярозы або альхі) акругляецца з бакоў і зьнізу, а потым абтачваецца тым-жа нажом або кавалкам шкла. Для крышкі, па дыямэтру капсулі, скручваецца трубачка з тонкай каробачнай бляхі. Калі формы гатовы, расчыняецца воск у неабходнай колькасьці, на вока. Росчын рабіць належыць у вялікай чарцы або фарфаравай баначцы. Трэба сачыць, каб воск ня кіпеў. Прыступаючы да работы неабходна прыгатаваць шклянку з халоднай вадой. Палачка абмакаецца ў ваду, прыалізна на сантымэтр, потым у воск на 12—15 *мм*, потым зноў у ваду і зноў у воск. Палачку вынуўшы з вады і з

[1]) Чытай „Ці ёсьць небясьпека ад стрыхніна" № 11—12, 1930 г. „Паляўнічы Беларусі".

[2]) Рэдакцыя, згаджаючыся з паказанымі неабходнымі мерапрыемствамі перасьцярогі, усё-ж павінна падкрэсьліць: 1) Снабжэньне стрыхнінам павінна ўтварацца ўсякі раз з асобнага дазволу і ўсебаковага падліку даных **(у тым ліку і клясавых)** аб асобе, якой давяраецца справа атручэньня ваўкоў, з праверкай ведаў і неабходных мер перасьцярогі. 2) Стрыхнін можа адпускацца толькі пад суровую справаздачнасьць і з дакладным вядзеньнем сьпісаў асоб, якім адпускаецца атрута— усякі па асобнаму акту. Па актах-жа павінен утварацца збор і зьнішчэньне няўзятых або ня зусім зьнішчаных атручаных туш—прынады, усяроўна, як і туш атручаных ваўкоў.

Рэд.

[1]) Падрабязны спосаб прыгатаваньня паказан у кніжцы „Волк и его истребление" Дм. Соловьева.

[2]) А адсюль са сьлінаю будзе праглочана. (**Рэд.**).

воску, кожны раз трэба калыхнуць, інакш ад вады ўтвараюцца наздравыя месцы, ад воску нарастуць кроплі. Па застыўшаму воску кругом навокал абводзіцца нажом, па разьмеру жадаемай велічыні капсуля,—і капсуль гатоў, трэба толькі зьняць з палачкі. Калі ня сойдзе,—значыць палачка недастаткова была ахаладжана вадой. Тады воск трэба ачысьціць начыста нажом і пачаць работу нанава. Зрабіўшы адзін капсуль работу працягваюць, пакуль воск ня стане застываць. Расплавіўшы зноў прыступаюць да работы патрэбнае колькасьці капсулёў. Каб атрымаць крышачку, трэба мець васкавыя пласьцінкі. Для гэтага бяруць сталовы нож і канцом макаюць у ваду і воск два разы, як і палачкай і паступова ўскалыхаюць. Потым па вастрыю і па рабору нажа праводзіцца другім нажом. Пласьцінкі сойдуць з нажа. Трэба толькі прыпадняць як небудзь з краёў. Трубачку круглым канцом націснуць на пласьцінку і крышачка будзе выразана. Крышачка з трубачкі высоўваецца асобнай палачкай праз другі канец трубачкі. Не зацейлівая работа стане зусім яснай, трэба толькі паглядзець на фотографічны здымак.



Зьлева направа. 1. Форма. 2. Капсуль. 3. Трубачка. 4. Крышачка. 5. Пяро, неабмакнутая яшчэ ў воск. 6. Плястынка з выразанымі крышачкамі. 7. Пілюля, яшчэ не абмакнутая ў воск. 8. Капсюль з крышачкай. 9. Пласьцінка.

## Меры перасьцярогі пры насыпаньні стрыхніна

Моц стрыхніна ўжо нам вядома, таму, прыступаючы да насыпаньня капсулей, трэба прыняць усе меры перасьцярогі. Калі нельга зрабіць гэта ў асобным памяшканьні, дык трэба рабіць так, каб у час работы нікаго з людзей, ні з жывёлы блізка ня былі. Асабліва трэба асьцерагацца прысутнасьці дзяцей. Лепш імкнуцца, каб яны ня бачылі гэтай апарацыі зусім. Нярэдкі выпадкі, калі неасьцярожны паляўнічы плоціцца любымі сабакам: пілюля нечакана зьляцела на падлогу, сабака сядзеў тут-жа каля стала. Паляўнічы аглянуцца не пасьпеў, як пілюля была зьедзена. Рукі абгледзіць, каб ня было німалейшай ранкі. Нос і рот закрыць хусткай (толькі не баваўнянай: у бавоўну можа набіцца пыл стрыхніну або прыліпнуць мала расьцёрты хрусталік), пакінуўшы месца для вачэй: пыл можа папасьці ў нос, а забыўшыся лёгка правесьці каля роту рукой, пасыпанай стрыхнінам. Насыпку трэба рабіць на стале, паклаўшы паперу. Па скончэньні работы паперу, бутэлечку з пробкай і наогул усе прыстасаваньні трэба спаліць, кінуўшы ў печку, і ні ў якім выпадку не пакідаць ня зьнішчанымі агнём. Стол абавязкова змыць вадой гарачай, а пакуль ня змыты, ніколі не дапускаць нікога да яго. Пры такіх мерах перасьцярогі стрыхнін небясьпекі не ўяўляе.

## Насыпка стрыхніна

Стрыхнін—звычайна ў хрусталіках. Захоўваецца ў шкляных бутэльках, закупораных пробкай і запячатан сургучом зьверху. Раней, чым вынуць пробку, трэба ачысьціць сургуч нажом. Пробка вымаецца асьцярожна, пры неасьцярожным абыходжаньні можна высыпаць стрыхнін, а такое абыходжаньне з атрутай не дапускаецца. У капсулі насыпаецца парашок. Дравяной палачкай хрусталікі разьціраюцца ў парашок у тэй-жа бутылачцы. Да насыпаньня прыступаюць, калі ня будзе відаць хрусталічаў. Капсулі трэба ўзяць трыма пальцамі левай рукі, а правай насыпаць стрыхнін гусіным пяром[1]. Насыпаны да краёў капсуль накрываецца крышачкай, і па месцу злучэньня крышачкі і краёў капсуля лёганька гладзіцца ногцем, пакуль ня будзе закрэплена крышачка, а каб канчаткова прыпаяць яе, трэба асьцярожна пагрэць па месцу злучэньня над сьвечкай або лямпай. Грэць трэба асабліва асьцярожна, інакш можна расплавіць капсуль больш чым трэба, і пілюля будзе сапсавана. Па скончэньні насыпаньня пілюлі макаюцца ў расплаўлены воск па два разы, з рэдкімі перарывамі. Пілюля накалываецца на швэйную тонкую іголку. Іголка ні ў якім выпадку не павінна праходзіць праз сьценку капсуля да стрыхніна, а каб мінаваць гэтага, трэба калоць ей ў дно капсуля, дзе воск застывае даволі тоўстай кропляй. Прыступаючы да абмаканьня неабходна прыгатаваць чайную лыжачку на выпадак, калі пілюля сарвецца з іголкі, каб зараз-жа вынуць. Інакш пілюля расплавіцца і воск будзе сапсаваны.

## Выбар прынады

Ваўку ўзімку ўсякая прынада па густу. Але ня ўсюды небясьпечна класьці усё без разбору: можна перапруціць ня толькі дваравых сабак з блізкіх насельных месц, але і паляўнічых. Каб мінаваць гэтага, трэба начыняць сабак, кошак, лісіц (іх тушкі, вядома, бяз скуркі), варон, сарок, г. зн. жывёл, якіх сабакі не ядуць. Вядома, конь, карова, цялё, авечка—прынада для ваўка лепшая, але такую прынаду можна класьці толькі там, куды не забяжыць ні дварняжка, ні паляўнічая сабака.

## Начыньне прынады

Каб начыніць сабаку, шкуру здымаюць нагавіцай, для чаго робіцца разрэз на задніх нагах ад пятак да хваста, і ўст шкура злупліваецца да галавы так, каб пасьля начынкі можна было яе зноў добра нацягнуць і зашыць. Начыняць можна і ня здымаючы шкур, бо здымка дае нямалую работу, асабліва ў студзёны зімні час, але гэта неабходна, каб пілюлі не вылялі, а, па-другое, лепш маскіруецца на-

[1]) Як прыгатовіць пяро, відаць на здымку.

чынка. Здымаць можна праз рот нагавіцай, але гэта работа цяжэй. Нож павінен быць чысты і бяз ржаўчыны, але лепш абыходзіцца без мэталічнага нажа. Апэрацыя гэта ўтвараецца на адкрытым паветры або ў памяшканьні, дзе няма ніякага вострага паху. Калі шкура зьнята,—дравяным верацяном робіцца ў розных мясцох праколы некалькі наіскось, куды ўкладваюцца па адной пілюлі і асьцярожна прасоўваецца палачка, імкнучыся не расьціснуць іх. Пілюлі разьмяркоўваюцца з такім разьлікам, каб, дзе-б воўк не адарваў кавалак, пілюля павінна папасьці яму ў рот. 24 пілюлі, зробленыя па паказанаму разьмеру, дастаткова для начынкі вялізарнага сабакі. Вядома, чым больш іх будзе ўведзена ў выбраную прынаду, тым больш гарантыі за посьпех. Работа павінна ўтварацца па магчымасьці ў рукавіцах. Курыць, бязумоўна, нельга. Для таго, каб у прынадзе не засталося нічога, што можа захаваць пах чалавека, начыненая прынада трымаецца суткі ў сухім конскім гнаі. Калі для прынады патрабуецца зьнішчыць сабаку, застрэліўшы яго, дык трэба страляць на такой адлегласьці, каб ад стрэлу не атрымаўся апёк шэрсьці. Такую прынаду воўк ня возьме, а калі возьме, дык ня скора.

### Дастаўка на месца

Для дастаўкі на месца прынаду трэба везьці або ў чыстай лазяной пляцёнцы, або ў дравяной скрынцы з непахучага дрэва, у якія ўперад кладзецца трохі таго-ж гною (конскага сухога); вымаць-жа на месцы трэба рукамі ў рукавіцах, якімі не датыкаліся раменнай збруі каня, заўсёды пахучай дзёгцем. Пакуль ня будзе пакладзена прынада і пакуль не ад'ехалі на значную адлегласьць на яе—курыць нельга? Ваўкі з прагнасьцю накідаюцца на прынаду, але бывае, што некалькі разоў прыходзяць і не ядуць, нават адцягнуўшы з месца. Рана або позна яны ўсё-ж такі зьядуць яе; ня трэба толькі кранаць і падыходзіць блізка, каб ня выклікаць падазронасьць. Дзе менавіта пакласьці прынаду мясцоваму паляўнічаму паказваць ня прыходзіцца: ён добра ведае воўчыя шляхі і пакладзе беспамылкова. Вопытны паляўнічы ў незнаёмай мясцовасьці арыентыруецца з першага азнаямленьня. Скрыжаваньне лясных дарог, пералескі—між палёў—воўчыя маршруты ўзімку. Хаця воўчай натуры ўсё гэта не закон.

### Уборка з месца

Уборка прынады з месца ні клопатаў, ні прыстасаваньняў, асобнага парадку не вымагае. Як толькі зямля адтала, паддаецца заступу, вырываецца яма і прынада там-жа на месцы зарываецца ў зямлю. Калі прынада разарвана на кавалкі, дык трэба абавязкова сабраць усе кавалкі і зарыць нават у тым выпадку, калі здаецца, што ў кавалках няма і ня можа быць пілюль: можна лёгка не дагледзіць і пілюля застанецца. Перасьцярога—галоўная ўмова пры абыходжаньні з атрутай. Ды і санітарныя правілы патрабуюць уборкі ўсякай падлы.

Цьвёрда трэба памятаць, што сіла атруты, як было ўжо сказана, гадамі захоўваецца ў васкавых капсулях, будучы герматычна запакованымі, а васкавыя капсулі не расплаўляюцца ў нас нават на самым прыпеку сонца. Калі не зарыць у зямлю прынаду, ня зьедзеную ваўкамі, або пакінутыя ад яе кавалкі, пілюлі ўрэшце будуць ляжаць на зямлі. Дапусьціць гэтага ні ў якім выпадку нельга. Былі выпадкі, што ваўкі адкапвалі прынаду і зьядалі яе. Таму трэба час, ад часу правяраць месца, дзе зарыта прынада.

---

Вось і ўсё тое, што паляўнічы павінен у дакладнасьці акуратна выконваць пры атручваньні ваўкоў стрыхнінам. У гэтай дробнай патрабавальнасьці можа быць і ўвесь сакрэт посьпеху. Ня трэба забывацца, што ў ваўка вельмі разьвіта абаняньне, асьцярожнасьць і недаверлівасьць да ўсяго нямейшая, а большая, чым у кожнага зьвера, таму і ўся задача з таго складаецца, каб перахітрыць гэту палахлівую і хітрую жывёлу. **Ф. А. Лялін.**



Собаль.

---

## „РАБСЕЛЬКОРЫ—КАМАНДЗІРЫ ГРАМАДЗКАЙ“ ДУМКІ

(*Пачатак глядзі на 9 стар.*).

стаяць зараз перад паляўнічай гаспадаркай ва ўсіх галінах яе разьвіцьця. А гэта і абавязвае кожнае райтаварыства паставіць палітвыхаваўчую работу сярод паляўнічых—рабселькораў так, каб яна дазваляла ім усебакова ахапіць і асьвятліць праз друк усе момантм работы, зьвязанай з будаўніцтвам паляўнічай гаспадаркі данага раёну. Работа ў рабселькораўскіх брыгадах і інш., вызначэньне адпаведнай літаратуры для іх (часопісаў, газэт), увядзеньне ў курс справы і работы т-ваў зьяўляюцца і ў даным выпадку адным з сродкаў выхаваньня.

З другога боку і рабселькоры, шляхам асьвятленьня праз друк становішча культмасавай работы ў раёнах, павінны стварыць такім чынам перш за ўсё абмен вопытам у гэтай справе. А гэта і дапаможа зьнішчыць тыя недахопы, што зараз наглядаюцца ў шмат якіх т-вах і дасягненьні лепшых з іх перанесьці на ўсе астатнія т-вы. Пры чым, рабселькоры ў справе разьвіцьця культмасавай работы павінны зьяўляцца свайго роду **культармейцамі** і, уяўляючы сабою больш актыўную частку паляўнічых, павінны дапамагчы райтаварыствам ахапіць выхаваньнем і ўсю астатнюю масу іх.

Такім чынам нашы раённыя т-вы, выходзячы з таго, што рабселькораўскі рух у сыстэме паляўнічай каапэрацыі разьвіт да гэтага часу надзвычайна слаба, павінны зараз-жа перабудаваць сваю работу ў гэтым напрамку так, каб яна забясьпечыла згуртаваньне вакол іх паляўнічай грамадзкасьці і ўзьняла справу рабселькораўскага руху сярод паляўнічых на належную вышыню.

**А. С—ка.**

# Арганізацыя Тарска-Жагуцкай прыпісной паляўнічай гаспадаркі ў Зах. Сіб. Краі

Яшчэ задоўга да выданьня „Положения об охотничьем хозяйстве“ РСФСР, зацьверджанага СНК РСФСР 10-II 30 г., у Сіб. Краі праводзілася ўжо работа па прыпісцы паляўнічых угодзьдзяў і па арганізацыі паляўнічых гаспадарак. На працягу 1930 г. і першай паловы 1931 г. работа гэта значна пашырылася. Паляўніча-эканамічнае дасьледваньне альбо, згодна новай тэрміналёгіі, першапачатковае будаўніцтва паляўнічых гаспадарак да сучаснага моманту праведзена ўжо на 25 проц. агульнай плошчы паляўнічых угодзьдзяў Зах. Сіб. Краю, якая вызначаецца арыентыровачна ў 110 млн. *га*. На працягу вясны, лета і восені 1931 г. праведзена і праводзіцца другая стадыя работы па лініі будаўніцтва паляўнічых гаспадарак.

Як і ўсякая новая справа, работа ў гэтай галіне сустрэла цэлы рад цяжкасьцяй рознага роду. „Положением“ 10-II 31 г. вызначаны толькі асноўныя ўстаноўкі, дэталёва распрацаваць якія павінна была інструкцыя Наркамзему. Але да гэтага часу інструкцыі гэтай яшчэ няма. І такім чынам няма і агульнага пляну. У выніку гэтага часта адбываюцца непаразуменьні, розныя тлумачэньні сутнасьці справы і інш.

За ўказаны пэрыяд часу кіраўніцтва і рэгуляваньне справай паляўніцтва ад Наркамзему перайшло да ВСНГ, у веданьне Саюзлеспрама. На мясцох яго ажыцьцяўляюць лесатрэсты. З верасьня 1931 году ў Зах. Сіб. краі кіраўніцтва гаспадаркай перайшло да Наркамснабу, які ня здолеў разгарнуць гэтай справы на аснове пастановы СТО ад 31 кастрычніка 1931 г. і перадаў яе ўпаўнаважанаму Наркамунешгандлю.

Прыпіску паляўнічых угодзьдзяў і арганізацыю паляўнічых гаспадарак у Зах. Сіб. краі да гэтага часу фактычна праводзіла адна паляўнічая кааперацыя.

На аснове матар'ялу паляўніча-эканамічнага дасьледваньня за Зах. Сіб. краем замацавана тэрыторыя Тарска-Жагуцкай паляўнічай гаспадаркі (Паўночная частка б. Тарскай акругі), дзе зараз і ўтвараецца поўнае будаўніцтва паляўнічых гаспадарак.



Упакоўка ваверкі.

Уся плошча праектуемай паляўнічай гаспадаркі арыентыровачна вызначана ў 2 млн. 500 тыс. га. Яна ахоплівае часткі двух мяжуючых раёнаў Зах. Сіб. краю—Тарскага і Тэўрыскага, у якіх маюцца раённыя паляўнічыя саюзы. З прычыны гэтага і гаспадарка падзяляецца на дзьве часткі. Заходняя частка—Імчыта-Урмінская мяркуецца да прыпіскі Тэўрыскаму саюзу паляўнічых. Усходняя-Жагуцкая к Тарскаму саюзу паляўнічых. Абедзьве часткі будуць самастойнымі паляўнічымі гаспадаркамі і пасьля сканчэньня поўнага будаўніцтва іх, па заключэньні дагавору на 10 год з упаўнаважаным Наркамунешгандлю, яны павінны існаваць на хозразьліку.

Прадметам апісаньня будзе Ўсходняя Жагуцкая частка Тарска-Жагуцкага прамыслова-паляўнічага саюзу, якая знаходзіцца на правым беразе р. Іртыша, Тарскага раёну, і ахоплівае поўночную частку яго. Плошча Тарска-Жагуцкай часткі раўняецца прыблізна 1 млн. га. Межамі гаспадаркі зьяўляюцца: з поўначы р. Дзям'ян—адміністрацыйная мяжа з Уральскай вобласьцю. На ўсходзе—адміністрацыйная мяжа Тарскага раёну і Нарымскага краю да вярхоўя ракі Шыша.

Паўднёвая частка гаспадаркі, якая складае прыкладна $^{1}/_{3}$ частку плошчы, у значнай ступені ўжо абжыта, з надта пашыранымі сельска-гаспадарчымі культурамі з дастатковай колькасьцю населеных пунктаў. Лясныя дачы дзяржлесфонду ўпарадкаваны. Пераважны склад насельніцтва па нацыянальнасьці—расійцы з невялікай колькасьцю латышоў, немцаў, зыран і чувашэй. Сустракаюцца беларусы і ўкраінцы. Астатнія $^{2}/_{3}$ паўночнай часткі зусім не абжыты і не асвоены. Населеныя пункты адсутнічаюць.

Дзяржаўныя лясныя дачы не ўпарадкаваны і леспрамгасу вядомы толькі ў некаторых мясцох. Паміж паўднёвай абжытай тэрыторыяй і паўночнай, слаба абжытай, шырокай паласой праходзіць вялікае балота—вадападзел сыстэм рэк Іртыша і Дзям'яна. На адзначанай тэрыторыі растуць хваёвыя лясы, часткова сустракаюцца лісьцьвяныя (бяроза і асіна). З хваёвых пераважнай большасьцю растуць елка, піхта, кедр, сасна. Лес даволі буйны ідзе няшырокай паласой ад 2 да 5 клм. каля рэк і адыходзячы ад іх робіцца больш дробным і пераходзіць у параўнаўча дробны сасьняк—там на махавым балоце. Далей ідзе чыстае балота з раськіданымі на ім вазёрамі і топямі.

Р. Жэгус упадае ў Дзем'ян амаль пад простым кутом. Дзем'ян цячэ раўналежна Іртышу. Па берагох яго таксама ідзе суцэльная паласа буйнага лесу. Гэтыя лясныя палосы вядомы паляўнічым пад назвай „сьцяна“. Дзякуючы шырокаму, цяжка праходзімаму ў летні час, балоту—вадападзелу, а таксама значнай аддалёнай ад насельных пунктаў, паўночная частка гаспадаркі наведваецца толькі адзінічнымі паляўнічымі і то ў зімовы час, летам-жа людзей там амаль ня бывае.

Прамысловая фаўна складаецца з наступовых прадстаўнікоў*): вавёрак, калонак, гарнастаяў, рысяў, расамах, лісіц, мядзьведзяў, собаляй, ласак, бурундукоў, зайцоў, ласёў, паўночных аленяў і інш. Усе пералічаныя зьвяры сустракаюцца на ўсёй тэрыторыі гаспадаркі, апрача паўночнага аленя, які больш за ўсё трымаецца ў паўночнай частцы і ў паўднёвую частку трапляе вельмі рэдка.

З прамысловых птушак маюцца рабцы, глушцы, цецярукі (у паўночнай частцы), белая курапатка, і розныя віды вадаплаваючай дзічы—качкі, гусі, лебядзі.

Паляўнічая прамысловая гаспадарка будуецца комплексная з уключэньнем, апрача паляўнічага промыслу, які зьяўляецца асноўным, таксама і інш. пабочных лясных промыслаў—кедравага, рыбнага, ягаднага, грыбнога і інш.

Першым асноўным пытаньнем пры ўпарадкаваньні паляўнічай гаспадаркі зьявілася пытаньне ўліку рабочай сілы, патрэбнай для поўнага правядзеньня і будаўніцтва прамысловай гаспадаркі на ўсёй тэрыторыі і па ўсіх відах промыслу. З тае прычыны, што прыпісная паляўнічая гаспадарка зьяўляецца ня толькі асноўнай базай для вытворчага каапэраваньня прамысловага насельніцтва, але і базай для калектывізацыі яго, было вырашана хутка прыступіць да арганізацыі паляўніча-прамысловых калгасаў. Прамысловае насельніцтва з ахвотай пайшло ў гэтыя калгасы. Колькасьць прамыслоўцаў, уступіўшых у калгасы, вызначаецца ў 350 асоб. За тым была склікана нарада прадстаўнікоў промкалгасаў.

Апошнія выбіраліся з такім разьлікам, каб забясьпечыць прысутнасьць на нарадах прамыслоўцаў, якія ўтвараюць паляваньне на паўночнай забалочанай частцы і такім чынам часткова знаёмыя з умовамі і характарам мясцовасьці. На гэтай нарадзе выявілася, што паўночная забалочаная частка гаспадаркі з прычыны сваёй аддалёнасьці ад населеных пунктаў, а ў зьвязку з гэтым і з прычыны цяжкасьці выхаду туды, наведваюцца ў пэрыяд промыслу вельмі нямногія найбольш вынослівыя паляўнічыя.

Выявілася таксама, што боровай дзічы, рабца і глушца, там вельмі многа, але на яе не ўтвараюць паляваньня з прычыны немагчымасьці выносу адтуль яе прадукцыі. З тае-ж прычыны не ўтвараюць паляваньня і на лася і мядзьведзя. У летні час указаная мясцовасьць зусім не наведваецца людзьмі. Толькі некаторая паляўнічыя, быўшыя там выпадкова, перадавалі, што мясцовасьць гэта вельмі багата ягадамі, асабліва чаромхай, рабінай, клюквай і інш. рэкі і вазёры багаты рыбай. Шмат вадаплаваючай птушкі.

На нарадзе быў прапрацован арыентыровачны плян магчымага выхаду таварнай прадукцыі па ўсіх відах промыслу.

За аснову ўзяты матар'ялы паляўніча-эканамічнага дасьледваньня, якія пракарэктыраваны ў сувязі з улікам рабочай сілы, што неабходна для ўсіх відаў промыслу.

На нарадзе была ўлічана і плошча гаспадаркі, што павінна быць адведзена пад заказьнікі як гарантыя бесьперапыннага карыстаньня (захаваньне пэўнага віду асноўных вытворцаў).

*) Умоўныя знакі.

У выніку ўсе магчымасьці таварнага выхаду вызначаны на пэрыяд з 1-X—31 г. па 1-X—32 г. у наступнай суме:

| | |
|---|---|
| Пушніны . . . . . . . | 33.665 р. |
| Баравой дзічы . . . . . | 6.700 „ |
| Вадаплав. „ . . . . . . | 1.000 „ |
| Мяса дзікай жывёлы . . . | 5.520 „ |
| Рыбы . . . . . . . . . | 1.125 „ |
| Кедравых арэхаў . . . . | 1.800 „ |
| Інш. відаў . . . . . . . | 1.800 „ |
| Разам на суму . . . | 65.000 р. |

Гэта сума разьмяркована паміж промкалгасамі, да якіх будуць прыпісаны асобныя паляўнічыя ўгодзьдзі. З калгасамі заключаны кантрактацыйныя дагаворы. Пытаньне ўзгоднена з райарганізацыямі і такім чынам неабходная колькасьць рабочай сілы—паляўнічых цьвёрда замацована.

Далей было прапрацована пытаньне аб арганізацыі на паўночнай частцы гаспадаркі прыёмачнага пункту, дзе паляўнічыя мелі-б магчымасьць здаваць здабытую імі прадукцыю. Такіх пунктаў намечана два (да будаўніцтва аднаго з іх ужо прыступлена ў кастрычніку). У абодвых пунктах мяркуецца мець дастатковую колькасьць боепрыладаў і неабходную прадукцыю для паляўнічых. Разам з тым вырашана пытаньне і з арганізацыяй зімняга транспарту для вывазу прынятай ад паляўнічых прадукцыі ў цэнтральны склад саюзу паляўнічых. Перавозка ўтвараецца пры дапамозе абозу з 20 коняй, які арганізуюць зацікаўлепыя ў гаспадарцы прамкалгасьнікі. Такім чынам падстава, якая вызначае эксплёатацыю паўночнай гаспадаркі, устаноўлена. Што датычыцца прадукцыі летняга промыслу—вадаплаваючай дзічы, рыбы, ягад, арэхаў і інш., дык яна павінна кансэрвавацца адпаведным спосабам. Для дзічы і рыбы ў канцы зімы будуць пабудованы засолачныя пункты, для ягад і арэхаў—сушылкі.

Для таго, каб не закідваць туды тару—бочкі і інш., вытворчасьць апошніх будзе арганізавана на месцы, пры дапамозе арцеляй бандарэй. Кансэрвная прадукцыя да пачатку зімы захоўваецца ў ледніках і транспартуецца ўказаным вышэй спосабам. Ня выключана магчымасьць вывазу гэтай прадукцыі і ў летні час—сплаву на лодках і інш.

Пад заказьнікі адведзены дзьве мясцовыя дачы—Камышская і Тынсінская і частка тэрыторыі ў вярхоўі р. Жэгува. Заказьнікі аслупаваны і да іх прыстаўлена належная варта. На тэрыторыі заказьнікаў мяркуецца вопытна-дасьледчая работа, штогадовы ўлік зьвера, птушкі, падкормка капытных і інш. У далейшым вызначана правядзеньне і арганізацыя сыстэмы чарговых заказьнікаў, якія праз тры гады пасьля арганізацыі адкрываюцца для эксплёатацыі і такім чынам на працягу 10—12 гадоў уся тэрыторыя гаспадаркі будзе скарыстоўвацца і як эксплёатацыйны вучастак і як заказьнік. Пры тых адносінах, якія праяўляюць калгасьнікі да паляўнічай гаспадаркі, ажыцьцявіць гэта магчыма і падобныя мерапрыемствы дадуць лепшыя вынікі ў параўнаньні з адным паступовым заказьнікам. Іншыя мерапрыемствы па будаўніцтву і ахове заказьніка зьмяшчаюцца ў наступным:

1. Правядзеньне барацьбы з браканьерствам, якое парушае прынцыпы паляваньня. Гэтая барацьба будзе ўтварацца, апрача наёмнай варты, таксама і выбарнай з самых зацікаўленых прамыслоўцаў.

Тэрміны паляваньня на першы год прыняты агульныя, існуючая ў Зах. Сіб. краі.

2. Ахова ад лясных пажараў—будаўніцтва буфэрных палос у найбольш небясьпечных мясцох шляхам стварэньня прасек і ачысткі пэўных месц, якая павінна ўтварацца вясною. Гэта ажыцьцяўляецца на кожным вучастку членамі таго прамысловага калгасу, якому даны вучастак перададзены. У заказьніках барацьба з пажарамі ўтвараецца наёмнай вартай з прыцягненьнем насельніцтва.

3. Зьнішчэньне шкодных драпежнікаў, да якіх у гаспадарцы належаць з зьвярэй—воўк, мядзьведзь, рысь, расамаха, з птушак арол, беркут, арлан, белахвост, ястраб і белая палярная сава і інш. Ахова павінна ўтварацца шляхам адстрэлу драпежнікаў заўсёды пры сустрэчы з імі, для чаго пэўным асобам выдаецца вядомая колькасьць боепрыладаў па прадстаўленьні дакумантаў—скурак ці лапак драпежнікаў. Паляўнічае насельніцтва заахвочваецца да зьнішчэньня драпежнікаў грашовымі прэміямі—за расамаху і рысь прэмія не выдаецца.

4. Правядзеньне культмасавай работы сярод насельніцтва, вытлумачэньне значэньня паляўнічай гаспадаркі, неабходнасьць падвышэньня каштоўнасьці паляўнічай прадукцыі і інш.

Мы лічым, што для данай паляўнічай гаспадаркі пералічаных мерапрыемстваў на пачатак дастаткова. У працэсе работы і асваеньня паляўнічых угодзьдзяў дастатковага азнаямленьня з імі магчымы будуць і некаторыя дапаўненьні, але гэта пытаньне часу. Найбольш інтэнсіўныя мерапрыемствы будуць праводзіцца на тэрыторыі заказьнікаў, паміж іншым—падкорм капытных—лосяў, будаўніцтва для іх штучных саланцоў, утварэньне галькоў для глушцоў і інш.

Зараз наш абавязак—вывучыць, вельмі мала да гэтага часу вядомыя вялікія плошчы, выявіць усе магчымасьці іх поўнай і ўсебаковай эксплёатацыі і зрабіць даступнай утварэньне яе, арганізаваць промысел і зрабіць яго больш інтэнсыўным.


Пушніна ў мяшках.

Арганізацыя прамыслова-паляўнічага насельніцтва ў колькасьці 400 дасьледчых таежных прамыслоўцаў, аб'яднаных у прамкалгасы і маючых свой вытворчы вопыт і сваю вытворчую базу накштакт прыпісаных да іх паляўнічых угодзьдзяў, і зьяўляюцца найбольш дзейнай сілай для поўнага асваеньня ўказанай тэрыторыі, дае гарантыю, што гэта асьваеньне будзе праведзена.

Пералічаныя вышэй мерапрыемствы арганізацыйнага парадку, да якіх належаць пабудова пунктаў у блізкіх да промыслу мясцох, арганізацыя транспарту і інш., робяць тэрыторыю гаспадаркі даступнай для эксплёатацыі і правядзеньня арганізацыі промыслу. Кожнаму прамкалгасу вызначан пэўны вучастак паляўнічых угодзьдзяў з улікам яго ёмкасьці, дадзены кантрольныя заданьні з заключэньнем кантрактацыйных дагавароў. Забесьпячэньне неабходнымі боепрыпасамі зьяўляецца таксама неабходным сродкам, які дазваляе праводзіць эксплёатацыю гаспадаркі ў поўным аб'ёме.

Інтэнсыфікацыя промыслу пойдзе за лік пасіленага здабываньня тых відаў, якія раней не здабываліся. Зараз будаўніцтва гаспадаркі адбываецца на мясцох. Да вясны 1932 году будзе скончан падлік зьвера і птушкі і тады будзе магчыма распрацаваць для кожнага прамкалгасу плян эксплёатацыі яго гаспадаркі, які павінен прадугледжваць колькаснае павялічэньне выхаду таварнай прадукцыі і якаснае падвышэньне яе. Апошняе павінна гарантаваць сваячасовасьць здабычы, а разам з тым і бесьперапыннасьць карыстаньня паляўнічымі ўгодзьдзямі з павялічэньнем запасу асноўных вытворцаў.

Такім чынам можа быць дасягнута ўзьняцьце прадукцыйнасьці паляўнічых угодзьдзяў.


Стары рыбак ладзіць невад.

В. Е. Ушакоў.



Шкуркі лісіц

# Школа і піанэратрад—у паход за пушніву

У пляне загатоўкі пушніны на 1932 год вялікае месца займаюць другарадныя віды пушнога зьвера—крата, хамяка, суськіа, амбарных і вадзяных пацукоў і інш. Здабыча гэтых відаў цалкам даступна школьніку і піанэру, і яны павінны быць прыцягнуты да гэтай справы, якой яны могуць садзейнічаць ня толькі ў якасьці непасрэдных удзельнікаў здабычы, але і ў ролі агітатараў і прапагандыстаў за выкананьне і перавыкананьне плянаў пушных загатовак калгасамі, саўгасамі і аднаасобнікамі.

Удзел школ і піанэратрадаў у справе загатовак паказаных відаў пушніны мае асаблівую значнасьць у сувязі з правадзімай імі работай па барацьбе з грызунамі пад сьцягам Асоавіяхіму і таварыства барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі (ТБШ). Барацьба гэта праводзіцца зараз бяз цеснай сувязі з пушнамехавымі загатавіцельнымі арганізацыямі,—хэмічнымі спосабамі, пры якіх грызуны гінуць пад зямлёй і скуркі іх прападаюць дарэмна.

А між тым хэмічную барацьбу з грызунамі з вялікай карысьцю можна замяніць мэханічнай,—пры дапамозе лавушак, пры чым скуркі захоўваюцца для загатоўкі; будуць апрацованы на мех для забесьпячэньня насельніцтва, а таксама і для вывазу за мяжы ў абмен на машыны і прылады для сацыялістычнага земляробства.

Вось чаму школьнікі і піанэры павінны наладзіць мэханічную лоўлю грызуноў і праз гэта садзейнічаць выкананьню і перавыкананьню плянаў загатовак. Школы і піанэратрады павінны ўзяць на сябе і арганізацыю лоўлі амбарнай крысы.

Але асаблівая вялікая задача стаіць перад школьнікамі і піанэрамі ў галіне трусагадоўлі. Трус адыгрывае ў нашым пушназагатоўчым пляне вялікую ролю. У вялікай праграме мерапрыемстваў, вызначаных пастановай СТО ад 21 кастрычніка 1931 г. па загатоўцы пушніны, асобнае месца займае трус. Ужо ў будучым годзе мы павінны загатовіць 21 мільён скурак і 15 тысяч тон трусінага мяса, на суму, каля 6 мільёнаў руб. Гэтыя лічбы кажуць самі за сябе, але яны набываюць яшчэ большае значэньне, калі ўлічыць, што з трусіных шкурак наша прамысловасьць выпрацоўвае прадметы першай патрэбы для забесьпячэньня імі рабочых, а часткова і для вывазу за мяжу.

Школы і піанэратрады павінны стаць энэргічнымі агітатарамі за разьвядзеньне трусоў у калгасах і вёсках, павінны арганізоўваць уласныя трусятнікі і браць шэфства над аграмаджанымі трусятнікамі.

Школы і піанэратрады, улічваючы тое вялікае значэньне, якое ўрад і партыя надаюць справе пушназагатовак у нашай краіне,—павінны ўступіць у сацспаборніцтва за лепшыя формы ўдзелу ў пушнамехзагатоўчай кампаніі.

**Усесаюзнае аб'яднаньне „Саюзпушніна“.**

Пры ўцягненьні дзяцей ў непасрэдную працу па здабываньні дробнай пушніны, асабліва, як гэта раіцца ў артыкуле, „амбарных і вадзяных пацукоў“—кіраўніком гэтай справы неабходна памятаць аб **бязумоўнай санітарнай небясьпецы** пры гэтым для дзяцей. Іншая справа—правядзеньне школамі барацьбы з грызунамі (мэханічнай ці хэмічнай), калі дзецям ня прыходзіцца мець справу з прапароўкай шкурак. І ва ўсякім выпадку, калі і ўцягваць школу ў непасрэдную працу па здабываньню грызуноў для пушнарыхтоўчых мэт, дык неабходна стварыць такія ўмовы, пры якіх дзеці ня мелі-б дачыненьня да здыманьня і праўкі шкурак.

**Рэд.**

# НА СЬВІТАНЬНІ*)

*(Канец)*

— Няпраўду кажаце, сушчую няпраўду, таварыш... Як гэта вас гукаюць?..—усьміхнуўся Гірша і нэрвова схапіўся за вострую сваю бародку.—Няпраўду кажаце, а, здаецца, разумны вы чалавек, таварыш!..

— Як гэта няпраўда?—нібы пацьвердзіў Бакіноўскі.

— Калі я казаў няпраўду?!. Калі, ну?!. Андрэй, ты-ж лепш ведаеш ад усіх...

— Вы хоць-бы, к слову сказаць, і цяпер...—перабіў яго Гірша і злорадасна хіхікнуў.—Навошта вам думаць, што ў калгасы ня трэба ісьці?! Што-ж вы гэта? Тут ня тое, тут трэба іншую, як-бы, сказаць, палітыку павесьці...

Гоман павольна заціх і ўсе ўтаропіліся на Гіршу. А Гірша яшчэ больш сагнуўся, увабраўся ў сваю шалупаіну, прыцэліўся. Цяпер ад Гіршы засталася толькі адна бародка ды гарачыя, што непатухшыя пад паветрам, вочы.

— Лоўка ты, шэльма, палітыку гэту самую ведаеш!—сказаў Вярзун.

— Камэрцыйны чалавек! Гэты табе ўсё ведае. Такі, брат, ого-го-го, народ тонкі! Вось запытай калі будзе вайна—ведае! Яны чорта ведаюць!..—наліваючы сабе чарку, нібы сам сабе цадзіў Харытон.

— Чорта—ня чорта,—усьміхнуўся зноў Гірша,—а што вам прыходзіць алох—ведаю!

На момант сьціхлі, потым чмялямі загуло застольле. Зноў заскакалі, захісталіся па мурзатых сьценках чорныя, да жудасьці ненармальныя чалавечыя цені.

Неўзабаве зьлілося ўсё ў адзін гам, запоўніла ўсю хату і перакаціла ўся ў сьляпую завіруху.

Лукаш жа гэтым часам пакапаўся ў чамадане і дастаў адтуль кансэрвы і яшчэ нешта закручанае ў жоўтую паперу і добра завязанае шпагацінаю.

Бравэцкі падняўся са свайго месца, узяў з гаспадарскіх рук пакупкі, падышоў да Андрэя і паставіў іх перад ім на стол.

— Навошта?—запытаў Андрэй.

Ён як-бы спалохаўся ад нечаканасьці. Ен увесь час маўчаў і толькі слухаў. Што думаў у такі час гэты чалавек—вядома ўжо толькі яму аднаму.

— Навошта?.. Што гэта?..—зноў запытаў Андрэй і адсунуўся ад стала, каб лепш глянуць на Бравэцкага.

— Хі-хі-хі-хе, хе-э-э!..—заліўся дробным сьмехам Бравэцкі. Затросься ў тахт ягонага сьмеху пазалочаны ланцужок на камізэльцы. Гэта дзеля вас, таварыш! Закусь, бачыце, дзеравенская, нікчэмная, а тут усё-ж ткі кансэрва!.. Благароднаму чалавеку і страва павінна быць па насе... хе-хе-хе!..

Андрэю ад аднаго гарэлачнага паху ўжо круцілася галава, а тут яшчэ Бравэцкі далікатна падышоў са шклянкаю.

— Для першага знаёмства!..—скланіўся да Андрэя Бравэцкі.

— Ня п'ю! Ня ўжываю!—адмовіўся Андрэй.

— Шкляначка, што кропля ў моры...

— Я кажу...

— Будзьдзе ўпэўнены! Свае людзі!..

А гэтым часам Гірша навучаў:

— ...пралезьці трэба ў калгас... А пакуль што далоў індывідуальны, гэты, як вы кажаце, надувальны падатак. Як мага хутчэй ачысьціцца ад яго... А то прапалі, што рудыя мышы... Ня будзеце пад падаткам—значыць вольная дарожка ажно ў савецкі рай...

— У які гэта рай?..

— У рай!.. У калгас!..—і зноў бягучна хіхікнуў у бараду Гірша.

— О-о-о, куды гнеш?..

— Ну, вядома, няхай мо' й так... Мо' яшчэ, дасьць бог, як вайну, там на весну...

Гірша толькі памахаў рукою і падняў высака бровы.

— Чакай Пятра—сыр зьясі! Чакалі вайны ведаеш колькі гадоў?.. Дачакаліся называецца!.. Ты, брат, слухай мяне—валі ў калгас, а там...—міргнуў Гірша,—а там... будзе табе й вайна!

— А там будзеш вось як работаць!..—і Бакіноўскі шматзначна ткнуў тлустым пальцам сабе ў грудзі.—І козы цэлы і ваўкі сыты!..

— Памаленечку... пакавалачку... ды сюды, ды сюды, ды сюды—заківаў Гірша ў Лукашоў бок.—А мы, госьцікі чаканыя, можна сказаць, жаданыя... А ў нас капеячка сьвежанькая, толькі што адціснута нядаўна... Бяры яе. Любую, ды ў кішэнь, ды ў кішэнь... А там, глядзь і калгасу—аман!.. Вот і канцы ў ваду... Шахір-махір! Шыта-крыта!

— Свае людзі!—бухнуў над вухам Андрэй Бравэцкі, калі заўважыў, што Андрэй пачаў прыслухоўвацца.—Не ўважайце на іх, таварыш!.. Свае адным словам, людзі! За ваша здравіе!

Андрэй прыкінуўся, што нічога ня чуў і падняў чарку. Закалацілася ягоная рука. Паўчаркі разьлілося на падлогу. Гэтым часам Бравэцкі цягнуў са шклянкі, Андрэй знарок выліў яшчэ палову і з напарстак тэй гарэлкі хуценька выкуліў і моцна крэкнуў.

— Моцная, падла! Ня п'ю...—нібы папрасіў у Бравэцкага прабачэньня ды палез па кансэрвы.

А слых і ўся ўвага Андрэя былі на другім канцы стала. Там перад Андрэем адчынялася таямніца

*) Гл. „ПБ" № 12,



Запакаваная пушніна на экспарт.

жыцьцёвая, там ён раптам убачыў тое, чаго так цярпліва, настойна і так доўга шукаў.

— ...гэта-ж вось...—закусіўшы ўжо і падняўшы пакунак, што быў у жоўтай паперы, узважваў яго на руцэ Бравэцкі.—Гэта—дзеля вас... От, неяк потым разьбярэмся. Сустрэнемся...

— Што гэта такое?—адарваўся Андрэй ад думак.

— Глупства адно! Вы-ж—паляўнічы?!. Дык от тут трошкі пораху ды шроту... Дзе-ж цяпер дастаць? А потым другім разам разьбярэмся... Вось паракінеце нам калі зайчыка, белачку, яшчэ што... От неяк-жа будзе... Ды, божа мой, ці-ж ўпяршыню нам гэта...

— ...На чорта мне здаўся той калгас?!. Жыву, як у хрыста за пазухай. Служу, атрымліваю капельку. Людзі добрыя, хату адчыняць... Прайдуся па лесе, глядзіш—скурка і ёсьць! Глядзіш—тут табе й капілька сьвежая!..

— Ня трэба!..—буркнуў Андрэй і адсунуў ад сябе ў бок пакнак. Андрэю хацелася, каб гаварыў увесь час Бравэцкі, каб не заўважыў ягонага настрою. Трэба-ж было сачыць за суседзьмі, прачуць іхнія гутаркі, іхнія думкі, пастановы.

— Вазьмеце, таварыш!

— ...вось ён...—махнуў Лукаш галавою ў Гіршаў бок.—Трымае мяне ўвесь час на нагах, ды дзякуючы ім,—паказаў вачыма на Вярзуна і Бакіноўскага,—стаў на ногі... У мяне, брат, скора і да тысячы дойдзе!..

Андрэй паклаў пакунак перад сабою і пачаў пастукваць па ім рукою.

— Колькі вам?...—бязуважна працадзіў Андрэй.

— Ды нічога!..

— Як гэта так—нічога?

— Вот калі скурку якую...

Андрэй падазронна глянуў на Бравэцкага. Бравэцкі-ж адвёў вочы і потым спрытна ўзяўсяналіваць чаркі.

— Я павінен здаць пушніну куды сьлед... Я ў саюзе паляўнічых!..

— Плюньце!.. Гэта тыя-ж нарыхтоўкі! Ты ў гэты час. Пуд хлеба, а табе, ведаеце, мэтр рагожы замест паркалю. Каму з гэтага якая выгада? Ды нават ці дадуць і таго?! Шальмоўства, ведаеце?..

— Андрэй не пасьпеў адказаць, як пачуў ад Гіршы:

— ...Тут свае хлопцы! Вы, браткі, заяву ў сельсавет, а вас там і падтрымаюць, а потым—лезь, цішком лезь у калгас... там будзе відаць, што далей і як далей...

— ... абы толькі каб скінулі...

— Скінуць, не шкадуй лішняга рубля!..

Захліпнуліся ў п'яным сьмеху. І толькі вось цяпер, калі Андрэй усё вызнаў, выведаў—яму адразу-ж зрабілася няёмка, проста агідна, што ён тут, ён—старшыня калгасу „Прамень", член сельсавету. А потым перабіла гэту думку пачуцьцё больш моцнае нават за самую думку, гэта пачуцьцё клясавай нянавісьці. Загарэўся Андрэй. Думаў спачатку выйсьці адсюль, моцна грукнуць гэтымі цяжкімі дзьвярыма, а потым мільганула:

— Чакай! Ня трэба! Патрэбна ўзяць сябе ў рукі і выслухаць... Выслухаць усё да канца, да дробячкі і потым ужо прыкрыць іх, як птушак на гнязьдзе...

...і неяк раптам пачуў, як зашаптаў Лукаш Гіршу:

— Значыць, мы як там з табою?—Пачакай...

— Не магу!.. Камэрцыя, сам ведаеш!..

— Дык як-жа?..

— Прад'яўлю ваксалі... Хату прадам, калі хочаш разам з табою!

Задумаўся Лукаш.

— Добра! Вось што—лось ходзіць... ведаю сьцежкі. У яго толькі адна...

Заўважыў і тое Андрэй, як загарэліся Гіршавы вочы. Пацёр, паціснуў рукі ён і труснулі пальцы.

— Давай!..—ледзь ня крыкнуў Гірша.

— Добра!.. Досьвіткамі будзе... У Воўчым Логу прыпільнаваў.

— Ня пі!.. Промах, можа быць. Здратуе!..

— Хе-хе-хе... Я не маладзёнак!..

Вярзун спаў паклаўшы галаву на булку хлеба, а Бакіноўскі зваліўшыся на лаву.

Капцела лямпа. Дапівалі.

### III

Досьвіткі.

Дрэмле сівы ад сьнегу Воўчы Лог. Зацішна тут, ні ветру, ні гуку. Вось толькі там, у тае старой каражыстай хвоі нешта пасыпаўся драбнюсенькі сьнег і ўздрыгнула, як бы ад спалоху на вяршыне галіна. Потым на другой хвойцы захісталася галінка. Мятнуўся жоўты хвост.

— Каб гэта не такая справа, трэба было-б скінуць яе...—падумаў чалавек, стоячы ўнізе пад хвояй і зноў агледзіў сваю дубальтоўку. Потым яшчэ раз азірнуць каля сябе праверыў сьцежку. Засыпала сьнегам. Гэта-ж учора ў завіруху замяло сьлед, але тут у гушчары яшчэ хоць няясна, але значна. Пратранёвана роўненькая сьцежка. Бліжэй прыглядзіўся—капыты, што карова прайшла і прайшла не адзін раз.

Авіраецца чалавек пад хвоей у пошуку з дубальтоўкаю на руцэ. Нэрвуецца.

Сьвітае.



Прасушка пушніны.

Рыхтуецца да сэзону



* * *

...Проста падбягаюць, сьпяшаюцца ў Воўчы Лог Андрэй, старшыня саюзу паляўнічых і старшыня сельсавету. Ні гамонкі сярод іх. Ніводнага гуку, нават што ўжо, а й руху лішняга ня зробяць. Ах, хутчэй-бы хутчэй! Гэта-ж далёка ад іхнага калгасу трэба было ісьці і так цяжка ісьці. Замяло дарогі, ніхто яшчэ не праехаў, не праклаў гатовае сьцежкі. Значыць ідуць людзі ў цаліну. Ня важна, што ўжо ўсе потам абліваюцца, важна, каб у пору папасьці, ды папярэдзіць дзікае забойства каштоўнага зьвера, ды накрыць таго, хто гэта пайшоў на такую справу.

—Ну вось мы і хутка будзем!..—шэпча Андрэй старшыне сельсавету

— Далёка?—пытае той.

— Паўкілёмэтра, ня больш...

Гусьцее лес. Ужо зусім добра відно. Ах, як шмат наваліла сьнегу. Зачэпіш якую-небудзь галінку шапкаю ці плячом і на цябе цэлая гара сьнегу. Шаргнеш лапцем аб выскаць—і здаецца табе, што вось увесь лес загрымеў ад гэтага стуку. Ажно жудасна.

Ну вось і Воўчы Лог. Андрэй ведае сьцежкі. Андрэй паперадзе. Застаўшыся толькі некалькі дзесяткаў крокаў.

Але што-ж гэта?!. як бы наперадзе нешта хруснула, здарава так шаманула. Потым:

— Гу-ух!!!

— О-о-о-а а-а...—разьлілося па бару.

Бягом усе на стрэл. І чуваць было, як цяжка-цяжка застагнала недалёка ад іх нейкая здаровая жывая істота.

— Лось!..—мільгнулася ў кожнага ў думках.

... Потым нечалавечы, нямы крык...

Андрэй першы выскачыў на прагалінку і Андрэй першы ўбачыў, як рыжы махіна—лось, павольна зьвярнуў ад сяцежкі, прайшоў у цаліну да хвойніка некалькі крокаў. Пастаяў трохі, хіснуўся некалькі разоў, глуха застагнаў і як п'яны рынуўся носам у глыбокі сьнег, потым пераваліўся на бок. Выцягнуў ногі, з усёй сілы ўдарыў заднімі капытамі ў корч, затарнаваўся і, сьцішыўся... З ягоных пысаў расплываўся па бялюткім сьнезе журавінны сок.

На сьцежцы распластаўшыся ляжаў бяз шапкі чалавек у кароценькім кажушку.

— Эх-х,—сукін сы-ын!..—кінуў старшыня саюзу паляўнічых.

Паднялі чалавека. Пасінелы твар. Мутным воловам наліліся Лукашовы вочы і з роту палілася цёмная, бурачковая кроў.

IV

У Лукашовай хаце пахмяляліся. Заначавала там уся ўчарашняя кампанія. Яшчэ з двара мужчыны пачулі вясёлы рогат. Нехта высокім тэнорам выводзіў:

> ...Ночка цёмна—я баюся
> Праважай меня, Маруся,
> Праважала да вакзала,
> Прышла дамой—плакаць стала...

А хтосьці разьліўся ахрыплым басам!

> — Ай гоп, гоп-та-а-та
> Ай гоп, гоп та-а-та
> Фіў, фіў—гоп та-а та
> Фіў, фіў—гоп та-а та...

— Рукі ўверх!..—Крыкнуў старшыня сельсавету з-за парогу і наставіў на кампанію стрэльбу.

Бравецкі яшчэ быў хапіўся за кішэнь, але Андрэй прыкладам прымусіў яго падняць рукі.

— Вы арыштаваны!..

— Што-ж гэта!.. Завошта?!—падняўся Вярзун.

— Маўчы!.. Добры птах, нечага казаць!..

Маўчанка.

— Ну — ваша брала!..—буркнуў Гірша. — Мы, здаецца, добра, абраблялі справачкі, а вы нас, як мышэй ў пастку... Ладна, вядзі куды хочаш!..

Апусьцела лясьнікова хата, затое ў калгасе „Прамень" павесялеў старшыня калгасу—Андрэй.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Распачалося новае жыцьцё.



Прэмія для здатчыкаў пушніны

Т. КЛЯШТОРНЫ.

# ЛЕНІН НА ПАЛЯВАНЬНІ

*(Успаміны старога бальшавіка паляўнічага)*

Гаманілі
Сосны з верасамі
Пра таежны сум.
І хадзіў
Палямі ды лясамі
Сьпелы шум.
Яшчэ лета
З голаў ня скідала
Летняе красы,
А ўжо вышла
Восень маладая
Залаціць лясы...
Прыгажэй
Ад бэзавага траўня
Гэты час...
У такі вось момант
Напаткаў я
Ільліча...
Час імчыць,
Як вецер над палямі..
Эх, гады?..
У Сібіры
Ссылку адбывалі
Мы тады.
Вось ад часу
Першага спатканьня
У памяці маёй,
Незабыўны
Момант паляваньня
Сьвеціцца зарой.
Шмат разоў
Яго я потым бачыў,
Бачыў Ільліча,
Паўстае ўсё-ж
У памяці іначай
Паляўнічы час.
Галавы
Ніколі ён ня вешаў
Ад нуды...
Нейкім блізкім,
Самым найбліжэйшым
Быў заўсёды.
І ня быў
Ні хмуры,
Ні пануры
Між палёў,
Гаварыць любіў
Пра фізкультуру
Часта ён:
— Адпачынак
Плянава, умела
Скарыстаць,
Гэта значыць—
Зморанаму целу
Імпульс даць.
Так
Ад часу першага
Спатканьня
У памяці маёй
Незабыўны
Момант паляваньня
Сьвеціцца зарой.
Як
Плылі туманы
Урачыста
За папар,
Калі сонца
Ў росах серабрыстых
Мыла твар,
Мы ў той час
Ішлі на паляваньне
Ўздоўж ракі...
Нам здалёку
Гольлейкам कівалі
Хвойкі.
—„Пачакай!—
Ён ветла жмурыць вока,—
Паміж тым,
Вун высока
У небе
Кружыць сокал,
Цэль Мартын!
Стрэл
І рэха зрушыла зацішша
У бары...
Сокал
вышай
вышай
вышай
Кружыцца ўгары.
— Эх, Мартын!..
Маім чаканьням здрадзіў!..
Ну, ці-ж так страляць?!
Будзеш ты,
Мартын, на барыкадах
Пасаваць.
Гэты жарт
Крануў мяне бялюча
Як дакор...,
Здэцца
Кпіў
Навокал лес драмучы,
Кпіў прастор.
Ня шукаў я
Позіркам дзічыны—,
Не такі настрой...
Нейкі смутак,
Смутак беспрычынны
Завалодаў мной.
Гаманілі
Сосны з верасамі
Пра зьдзічэлы сум...
І блудзіў
Драмучымі лясамі
Сьпелы шум.
Мы ішлі паўз рэчкі
Праз чароты,
Вербалоз кусты...
Раптам—
Качак цэлая чародка...
Тут
Ня здаў Мартын...
Як дзіцёнак
Быў я задаволен
Тым,
Што
Адным тады набоем
Укакошыў тры.
Покуль я
Шукаў іх паміж зёлак
Ля ракі,
Дык Ільліч
Пайшоў на ўзгорак
Нацянькі.
Ён ішоў—
Дзе нейчы паміж соснаў
Быў агонь...
Раптам ліс...
І
Скіраваўся проста
На яго...
Паляўнічы зьмей
У сэрцы біўся—
Палкі зьмей...
Я ўвесь
Пытальнікам зрабіўся—
Што-ж далей?!.
Вось Ільліч
Наводзіць стрэльбу
Хутка
На яго...
Разьвітаецца
Ліс пэўна з хутрай
Дарагой?!..
Ён на мушку
Узяў яго як пэўнасьць,
Ён сустрэў...
Вось зусім
Зьмяншаецца адлегласьць...

Зараз—стрэл...
Што такое?!.
Ліс пайшоў ня стрэты
Ільлічом,
А Ільліч
Павесіў ужо стрэльбу
За плячо?!
— Эх!..
Навошта ліса
Прапусьціў так?
Што з табой?
Дубальтоўка
Можа не набіта?
Не спаліў набой?
— Пачакай

І лісу прыдзе хутка
Лісаў дзень...
Яшчэ ліс
Сваёй зімовай хутры
Не адзеў.
— Пачакай!—
Сказаць сабе я мусіў,—
Пачакай!
Хоць удача
Ўзята і на мушку
Разважай!..
Неяднаць
Разважлівасьць з адвагай
Я прывык...
Ня губляй

Халоднае развагі
Бальшавік!...
. . . . . . . .
Гаманілі
Сосны з верасамі
Пра таежны сум...
І хадзіў
Палямі ды лясамі
Сьпелы шум.
Яшчэ лета
З голаў ня скідала
Летняе красы,
А ўжо вышла
Восень залатая
Залаціць лясы.

---

## Біцца за выкананьне плянаў







**Згодна пастановы Цэнтральнага праўленьня Белкахотсаюзу раённыя таварыствы, якія своечасова разгарнулі сацыялістычныя мэтады працы і выканалі пляны пушных нарыхтовак, занесены на чырвоную дошку.**

1. Заслаўскі
2. Рэчыцкі
3. Хойніцкі
4. Петрыкоўскі
5. Слуцкі
6. Быхаўскі
7. Магілеўскі
8. Масьціслаўскі
9. Бярэзінскі
10. Дрысенскі

**Згодна пастановы Цэнтральнага праўленьня Белкахотсаюзу, раённыя таварыствы, якія не разгарнулі адпаведных тэмпаў работы, і ня выканалі плянаў пушных нарыхтовак, заносяцца на чорную дошку.**

1. Горацкі
2. Крупскі
3. Гарадокскі
4. Лельчыцкі
5. Ушацкі
6. Аршанскі
7. Рагачоўскі
8. Любаньскі
9. Чырвонапольскі
10. Клімавіцкі
11. Стара-Дароскі
12. Касьцюковіцкі

## Як працуе Копыльскае т-ва паляўнічых

З штатных працаўнікоў т-ва мае сакратара праўленьня і загадчыка паляўнічай крамай **Харытановіча Ігната**. Абодвы працаўнікі, і асабліва Харытановіч, справамі паляўнічай гаспадаркі ня цікавяцца. Зьнішчэньне шкодных драпежнікаў не праводзіцца, хоць у раёне і маецца шмат ваўкоў. Абодвы-ж апошнімі ня цікавяцца.

Культмасавая, палітвыхаваўчая работа сярод паляўнічых не вядзецца. Падпіска на пазыку „3-га рашаючага" рэалізуецца слаба.

Забесьпячэньне паляўнічых боепрыладамі наладжана дрэнна. Шроту амаль зусім няма, апошняе выдаецца **выключна** за здачу пушніны, але і то ў надта малой колькасьці.

Пытаньне арганізацыі ў раёне трусятніку да гэтага часу яшчэ ня вырашана.

Трэба безадкладна наладзіць работу т-ва і выгнаць з праўленьня асоб, якія справай разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі ня цікавяцца.

**3—мы.**

## Прызваць к парадку Жалезьнякоў

*(Ельскі раён)*

У 1929 годзе пастановай Мазырскага акруговага т-ва паляўнічых гр-не вёскі Млынішчы, Скародзенскага сельсавету **Жалязьнікі** Ясюк, Базыль і Адольф былі выключаны з сяброў саюзу паляўнічых за сыстэматычнае паляваньне на выдру.

Але-ж зараз невядома, якім чынам **Жалязьняк Адольф** паміма вясковай ячэйкі атрымаў недзе білет на права паляваньня і зараз заяўляе:—„Я мясцовай ячэйкі ня прызнаю"... Брат-жа яго **Жалязьняк Ясюк** палюе бяз білета, як браканьер. На імкненьне-ж паляўнічых узяць у яго стрэльбу Жалязьнякі заяўляюць: „Калі хто пасьмее зрабіць гэта—застрэлім!.." Так заявілі яны 23 сьнежня ўпаўнаважанаму вясковай ячэйкі паляўнічых **Патапенку Алесю.**

Аб такіх паводзінах Жалезьнякоў ня раз даводзілася да ведама Ельскага т-ва паляўнічых, але ніякіх захадаў яно ня прыняло. А ўжо час зрабіць гэта і зьнішчыць браканьераў.

**Паляўнічы.**

## Лясьнік-браканьер

Здаецца, лясны вартаўнік ня толькі не павінен сам займацца браканьерствам, але абавязан весьці барацьбу з браканьерствам. Аднак, лясьнік Братскоўскага сельсавету, Копыльскага раёну, **Чыркун Язэп** сыстэматычна палюе бяз білета, мае шмат сабак і 3 гады парушае ўсякія правілы паляваньня. Здабытыя прадукты паляваньня (скуркі і інш.) здае не ў краму паляўнічых, а прадае спэкулянтам-прыватнікам. Райтаварыства і міліцыя, не зважаючы на шматлікія заявы з боку паляўнічых, ня прымае ніякіх захадаў супроць Чыркуна. А час ужо прызваць да парадку гэтага заядлага браканьера.

**В. К.**

## Падкулачнік арудуе з паляўнічай стрэльбай

У сьнежні месяцы гэтага году ў час пасяджэньня праўленьня калгасу імя Сталіна, Калодзішчанскага сельсавету п'яным зьявіўся ў праўленьне калгасу падкулачнік паляўнічы **Стафановіч Балеслаў Янкаў.**

Пагражаючы стрэльбай, **Стафановіч** высунуў перад старшынёю калгасу рад патрабаваньняў, якія нельга інакш характарызаваць, як патрабаваньнямі падкулачніка, хулігана. Калі старшыня калгасу адмовіўся ад задавальненьня яго патрабаваньняў, **Стафановіч** пагражаў забіць старшыню, але быў выкінуты членамі праўленьня за дзьверы разам з яго стрэльбай і складзены пратакол для прыцягненьня Стафановіча да суровай адказнасьці.

Па нашай думцы і Калодзішчанскай ячэйцы паляўнічых трэба выкінуць Стафановіча з сваёй арганізацыі і атабраць стрэльбу.

**Ш.**

## „Хітрыкі" шарака

Усім вядома, што ўзяты сабакамі заяц робіць колы, зьвяртаецца на старое месца (з якога ён узьнят). Я лічу гэта ня хітрыкамі зайца, а проста аседласьцю яго ў данай мясцовасьці. Але ідучы пад сабакамі зараз здолен выкідваць розныя „нумары". Пра адзін з такіх нумароў я і хачу зараз расказаць.

Аднаго разу я з некалькімі паляўнічымі пайшлі на паляваньне. Надвор'е было ня спрыяючае: дзьмуў вецер і парашыў сьняжок. „Маліка" ня было. Мы ўжо было павярнулі да хаты, як перад намі ўскочыў заяц. Навальваем сабаку і самі труском да „Ліпак", дзе Сож робіць вялікае калена з вастраўком, праз які павінен быў ісьці заяц. Сталі слухаем—гон набліжаецца. Крокаў за 350—400 ад мяне на Сожы—палыньне, дзе звычайна зімуюць качкі. Гляджу—проста на палыньне коціць „шарак". Узьнімаю куркі. Заяц падкаціўся да палыньні і прысеў на лядку. Сабакі ня відаць—чуцен толькі гон. „Шарак" прабег у адзін бок, зьвярнуўся назад і, сеўшы на заднія лапкі, пачаў слухаць. Паслухаў некалькі хвілін ды... **скок** у палыньню. Праплыў крокаў 75 (я потым знарок зьмерыў адлегласьць) супроць плыні, выскачыў на той-жа бераг і даў цягу...

Зьбянтэжаны ганчак доўга нюхаў лёд наўкола, шукаючы сьлед, які сапраўды кануў у ваду. А заяц тым часам быў ужо далёка, праскачыўшы міма майго сябра, які даў асечку.

Мы доўга пасьля абмяркоўвалі такі ўчынак „шарака" і аднадушна парашылі, што заяц здолен на несьвядомыя (вымушаныя—*рэд.*) „хітрыкі" для таго, каб выратаваць сваё жыцьцё.

Так гэта ці не—хай скажуць другія паляўнічыя.

**В. Караткевіч.**

## Арганізаван усесаюзны цэнтр паляўнічай каапэрацыі

У Маскве арганізаваўся Ўсесаюзны цэнтр паляўнічай каапэрацыі, у які ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх рэспубліканскіх цэнтраў паляўнічай каапэрацыі, у тым ліку і ад Белкахотсаюзу.

Цэнтр зоймецца вырашэньнем тых пытаньняў, якія будуць садзейнічаць рэканструкцыі паляўнічага промыслу ў рэнтабельную паляўнічую гаспадарку.

Як вядома, дагэтуль у нас кіравалі паляўнічай гаспадаркай шмат устаноў і ў выніку, можна сказаць сьмела, ніхто не кіраваў. Паляўнічым промыслам у Беларусі цікавіўся і Белкахотсаюз, і Наркамзем, і Леспрамгас, а гаспадарка заставалася ня вывучанай. Вядома, гэта перашкаджала яе разьвіцьцю і будаўніцтву, не давала магчымасьці весьці сталае вывучэньне паляўнічых угодзьдзяў, утвараць вучот паляўнічай фаўны, наладжваць навуковую работу, якая-б садзейнічала падняцьцю прадукцыйнасьці паляўнічага промыслу і выкананьню плянаў па пушнамехсыравінных і дзіча-нарыхтоўках.

З гэтае прычыны належныя арганізацыі і ўстановы ўзбудзілі пытаньне аб арганізацыі Ўсесаюзнага паляўнічага цэнтру, які зараз і арганізаван.

Цэнтр будзе вывучаць ня толькі паляўнічы промысел, паляўнічыя ўгодзьдзі, фауну і г. д., але займецца і ўсёй арганізацыйнай работай саюзу паляўнічых на тэрыторыі ўсяго СССР, пастаноўкай справы на мясцох па арганізацыі паляўнічай гаспадаркі, вывучэньнем сацыяльнага складу паляўнічых, пытаньнямі плянавага снабжэньня паляўнічай каапэрацыі прыладамі паляваньня, наогул усімі тымі пытаньнямі, якія зараз стаяць перад паляўнічай каапэрацыяй у зьвязку з рэканструкцыяй усяе нашае народнае гаспадаркі, у зьвязку з сацыялістычным будаўніцтвам. Усесаюзны паляўнічы цэнтр прыступіў да сваёй дзейнасьці.

**Н.**



**Даводзіцца да ведама ўсіх паляўнічых, што паляваньне на ўсе віды пушніны працягнута да 1-га сакавіка 1932 г. за выключэньнем вавёркі да 25 лютага 1932 г.**

**Упаўнаважаны НКЗамеж-Гандлю СССР пры СНК БССР**


Рэдактар—рэдкалегія: **Волдынь, Тамашэўскі, Цэлеш і проф. Федзюшын.**

## ТАВАРЫШ, ТЫ ХОЧАШ ВЕДАЦЬ,

як трэба весьці на калектыўных пачатках паляўнічую гаспадарку? Як арганізаваць калектыўнае разьвядзеньне каштоўных пушных зьвяроў? Як арганізаваць трусятнік? Як выбраць і прыстраляць стрэльбу? Як выбраць сабаку для паляваньня? Якія спосабы паляваньня могуць даць лепшыя вынікі? Дзе жывуць розныя прамыслова-паляўнічыя зьверы і птушкі? Якія іх прывычкі? Якія неабходныя ўмовы, каб іх было больш у паляўнічых угодзьдзях? Чым вы можаце дапамагчы ў справе вывучэньня паляўнічай гаспадаркі? Чым дапамагчы сыстэме паляўнічай каапэрацыі ў хутчэйшай арганізацыі паляўнічай гаспадаркі? Як самому ўключыцца ў работу гэтай галіны?

**НА ЎСЕ ГЭТЫЯ І ДРУГІЯ, ЦІКАВЯЧЫЯ ВАС, ПЫТАНЬНІ ТЫ МОЖАШ АТРЫМАЦЬ ВЫЧАРПАЛЬНЫЯ АДКАЗЫ.**

## ВЫПІСВАЙ НА 1932 ГОД ЧАСОПІСЬ

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ"

Орган прамыслова-каапэрацыйнага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗУ".

САЮЗЫ, ТАВАРЫСТВЫ І ПАЛЯЎНІЧЫЯ ЯЧЭЙКІ!
Вылучайце арганізатараў падпіскі на нашу часопісь.

У часопісі шырока асьвятляюцца пытаньні паляўнічае каапэрацыі, будаўніцтва калектыўнай паляўнічай гаспадаркі, жыцьцё і норавы зьвяроў і птушак, пушная справа, паляўнічае права, спосабы паляваньня, сабакагадоўля, ружэйная тэхніка. Асобную ўвагу часопісь будзе аддаваць пытаньням будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, калектыўнай пушной зьверагадоўлі і трусагадоўлі, а таксама біолёгіі прамыслова-паляўнічых жывёл, бо веды яе забясьпечваюць пасьпяховасьць паляваньня і паскараюць тэмп сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічага промыслу ў рацыянальную паляўнічую гаспадарку.

У 1932 годзе ў часопісі мяркуецца адкрыць спэцыяльны аддзел, асьвятляючы пытаньні рыбаводзтва і рыбалоўства.

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| на 1 год | 2 р. 40 к. |
| на паўгода | 1 „ 20 „ |
| на 3 мес. | — 60 „ |

На меншы тэрмін падпіска ня прымаецца.

**Падпіску і грошы накіроўваць: Менск, Кіраўніцтва сувязі, або ў бліжэйшае паштовае аддзяленьне.**

**Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68, выдавецтва „Калгасьнік Беларусі".**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 278. 7.000 экз. Галоўлітбел № А—3.

